№12 (975) 6 снежня 2017 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

16+

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# Асобы года 2017

**Уладзімір Макей**
Бязвіз года





**Аляксандр Сапега**
Эмігрант года



**Аляксандр Коржыч**
Шараговец года



**Зміцер Бартосік**
Пісьменнік года



## Павел Калаўр
## Стабілізацыя рубля



**Ігар Шуневіч**



**Андрэй Кім**
Культуртрэгер года



**Тэнісісткі**
Спартоўкі года





**Зміцер Дашкевіч**



**Улад Бумага**



**Ганна Бахціна**

## Сумленне года
## Ніна Шыдлоўская



Музыкі года
## Naviband

*Шэраг падзей нас пакідае*
*У сэрцы трымаем*
*Ідзем далей*

Старонкі 3—5.

# «Вярніце арматуру»: колькі дзяржаве каштавала справа патрыётаў?

Ціхімі словамі Наскевіча пра «пастаўленую кропку» скончылася гучная Справа патрыётаў. Восем месяцаў следства спатрэбілася, каб прыйсці да таго, што і так было відавочна ад пачатку: ніякай арганізаванай структуры беларускіх нацыяналістаў, якая замахваецца на дзяржаўны лад, няма.

Апроч надламаных лёсаў, спаленых нерваў і страчаных кадраў (успомніце, ці застаўся служыць у войску салдат па прызванні Уладзімір Румянцаў?), асобна трэба вылучыць кошт гэтай пастаноўкі.

У кожнага з фігурантаў справы асабістыя рэчы канфіскоўвалі дзясяткамі: сапёрныя лапаткі, страйкбольныя аўтаматы і пісталеты, нажы, муляжы гранат, шаўроны...

А вы ведаеце, колькі каштуе экспертыза бутафорскай зброі?

Напрыклад, каб спецыяліст Камітэта судовых экспертыз пацвердзіў, што страйкбольны аўтамат — не баявы, а ўсё ж страйкбольны, трэба 93 рублі.

Такую суму нам назвалі ў прэсслужбе ведамства, калі мы спыталі пра цэны экспертыз у рамках крымінальных спраў.

Сюды ўваходзяць выдаткі на рэагенты, транспарт, святло, працу...

Уявіце цяпер, колькі тысяч рублёў сышло на тое, каб эксперты выявілі, што аўтаматы баявымі не страляюць, муляжныя гранаты не выбухаюць, сталовыя нажы не лятаюць, а шаўроны з арнаментам «Спарыш» — не экстрэмізм?


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Дадайце сюды ганарары аператыўнікам за марныя высілкі (успомніце, як КДБ хваліўся, што гадамі вёў «легіянераў»), ганарары журналістам БТ, «СБ» і «Вечерних Мінсков», паперу для справаводства, кошт харчавання ў СІЗА ўрэшце.

І цяпер паўстае пытанне: хто за гэта ўсё адкажа? Ці будзе прыцягнутая да адказнасці загадкавая «фрау А.» за паклёп?

Вядома, у КДБ, які распачаў справу, «фрау А.», да адказнасці не прыцягнуць, бо гэта не ўваходзіць у іх юрысдыкцыю. У Следчым камітэце таксама не кажуць, ці ёсць падставы для прыцягнення «фрау А.».

У прэс-службе Белдзяржтэлерадыёкампаніі нам не змаглі сказаць, ці дадуць яны абвяржэнне свайму прапагандысцкаму фільму, параілі толькі пісаць да іх пісьмовыя запыты.

Як нам паведамілі «легіянеры», яны маюць намер ісці ў суд з позвамі да ўсіх прапагандыстаў аб абароне годнасці і зняпраўджванні паклёпаў.

Агулам жа Справа патрыётаў умацавала недавер да сілавых органаў і дзяржаўных СМІ. Яна замацавала разуменне, што ў Беларусі могуць адарваць ад працы і кінуць за краты тры дзясяткі невінаватых людзей, трымаць іх там 100 дзён, а потым не знойдзецца не толькі віны, але і вінаватых.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Сцісла

### Заробак у бюджэтнікаў вырасце

На 2018 год прадугледжаны рост заробкаў у бюджэтнай сферы. Плануецца выйсці ў сярэднім пры кансерватыўным сцэнары на 700 рублёў. Пра гэта паведаміла міністр працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч. «Калі ж эканоміка вырасце на 3,5%, то, я думаю, Br760 у сярэднім у бюджэтнай сферы мы зможам забяспечыць», — сказала Ірына Касцевіч.

Праўда, такія заробкі ўсё адно застануцца аднымі з самых нізкіх у Еўропе. Нас абагналі нават краіны Балкан і Румынія.

### Улады даверылі Алексіну гандляваць цыгарэтамі

Кампанія «Энерга-Ойл» Аляксея Алексіна зоймецца стварэннем адзінай тавараправоднай сеткі, якая будзе прадаваць тытунёвую прадукцыю як на ўнутраным рынку, так і на знешнім.

Аляксей Алексін раней быў партнёрам Юрыя Чыжа. Аднак у 2012 годзе іх шляхі разышліся. Зараз інтарэсы бізнэсмена сканцэнтраваныя на гандлі нафтапрадуктамі, банкаўскай сферы (МТБанк), вытворчасці мясных вырабаў («Вялес-Міт»), будаўніцтве, лагістыцы і рэстаранным бізнэсе.

## Падзякі

Дзякуем фундатарам НН Вячаславу В., А.Бойку, Юліі, УН, А.Дарэўскаму, Максімовічу, А.Спадаровічу і асабліва В.Раманенку, В.Кіпрыяновічу, Аляксандру Т., Андрэю, Ю.Ю., Кап. Газ. і асабліва Ільініч, А.Пашкевічу, П.Праснякову, Ю.Майсейчуку, ЛДз, Бялькевічу, А.Місніку, Ю.Г., Е.Краснавоку, Т.Сіняўскай і асабліва Аляксею, І.Кобзіку, В.Літвіненку, Н.Ілініч, Сяргею Ш., Віталю К., Дзянісу А., ДК, Аляксандру Т., С.Гарбачыку, Я.Чыгіру і асабліва В.Раманенку, В.Краўчуку, А.Рыбачонку, І.Бураму, Аляксандру Т. і асабліва Дз.Наркевічу, В.Дарэўскай, І.Маркелавай, В.Ж., Н.А., Д.К., за грошы, дасланыя праз сістэму АРІП.

А таксама шчыра дзякуем сям'і Капарыха з Мінска за віншаванні з нагоды 111-х угодкаў «Нашай Нівы».

Гісторыя

# «Кастрычніцкі пераварот — нож у спіну рэвалюцыі». Што адбывалася ў Мінску ў кастрычніку 1917 года

Кастрычнік у Мінску: галасы сведкаў. Піша гісторык Ніна Стужынская.

Для нас, якія пражылі жыццё, напоўненае гістарычнымі казкамі пра добрага дзядулю Леніна і Вялікі Кастрычнік, якія і сёння не ў стане намацаць арыенціры ў будучыню з прычыны ўкарэненасці ў свядомасці гэтых міфаў, натуральнае жаданне дакапацца да праўды. Саскрэбці рэтуш з «дасягненняў» гістарычнай навукі, якая ператварыла тыя пякельныя трагічныя дні ў застылую мёртвую схему, няпроста. На гэта, папершае, няма палітычнай волі: для ўлады Беларусі Кастрычнік па-ранейшаму застаецца адной з асноў гістарычнай легітымнасці. Па-другое, не адно пакаленне, забыўшы пералік падзей гэтага «вялікага» дня, страціла надзею і цікавасць дакапацца да праўды.

Бязлодная (творцы рэвалюцыі амаль усе былі знішчаны ў 1930-я), залакіраваная партыйнымі ідэолагамі непраўдзівая гісторыя рэвалюцыі паціху страціла аўтарытэт і годнасць.

Рэвалюцыйны сюжэт — ці то ў фундаментальнай акадэмічнай працы, ці то ў падручніку — выглядаў традыцыйна і прымітыўна. Па адзін бок умоўных барыкад пад чырвоным сцягам — бальшавікі, партыя ленінцаў, за якой у адным памкненні масы, з другога — вартая жалю «кучка» — усіх пакрысе: меншавікі, эсэры, бундаўцы, нацыяналісты.

З кім бальшавікі так бязлітасна змагаліся і над кім атрымалі «вялікую» перамогу? Выходзіць, што антыбальшавіцкая альтэрнатыва, другая, беларуская, нацыянальная, свая гісторыя Кастрычніка засталася недзе ў гістарычным цені. Суседзі — украінцы — пад суправаджэнне «ленінападу» адзначаюць Вялікую ўкраінскую рэвалюцыю, ствараюць новае гістарычнае палатно і новы сэнс мінулага з пункту гледжання новай рэчаіснасці. А мы маем горы малакарыснай літаратуры, а цікавымі застаюцца толькі «замалёўкі» першапраходцаў, якія, не спазнаўшы прэсу савецкай цэнзуры, пакінулі цікавыя сведчанні.

Цяпер мала хто паверыць, што Кастрычнік — «вяршыня гістарычнага працэсу», хутчэй, можа пагадзіцца з жартам, што «рэвалюцыя — традыцыйная руская гульня». Дык хто і як «згуляў» у Мінску ў кастрычніку — лістападзе, 100 год таму? Калі ў 1922-м пачаў працаваць Інстытут гісторыі партыі (Гістпарт), адразу склалі спісы «актыўных удзельнікаў і кіраўнікоў Кастрычніцкага перавароту на Заходнім фронце». (Прыкладна да 10-га юбілею рэвалюцыі падзея ў крыніцах, дакументах, СМІ называлася пераваротам.) Паказальна, што ў пераліку імёнаў няма беларусаў, нягледзячы на ўсе намаганні, каб іх знайсці.

У персанальных спісах створаных бальшавікамі арганізацыяў — адны і тыя ж людзі. Спіс №1 «Сябры Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП»: Мяснікоў, Ландар, Кнорын, Фамін, Алібегаў...

Спіс №2 «Сябры бальшавіцкай фракцыі Мінскага савета» (шматпартыйнага, дарэчы): Мяснікоў, Ландар, Кнорын, Фрэйман, Алібегаў... Спіс №3 «Сябры ваенна-рэвалюцыйнага камітэта»: Мяснікоў, Ландар, Кнорын, Фрэйман... Спіс №4 складу рэдакцыі газеты «Звязда»: Мяснікоў, Фрунзэ (хутка яго зменіць Кнорын), Фамін... Як бачым, галоўных «гульцоў» не так і шмат. Першы з іх — яўны верхавод, франтавы «дыктатар» з прапаршчыкаў.

Усе яны выпадкова, хваляю Першай сусветнай вайны былі закінуты ў Беларусь. Маргіналы, адарваныя ад сваёй нацыянальнай глебы, людзі без каранёў, яны знайшлі месца для ажыццяўлення сваіх уладных амбіцый.

Тэарэтычна Беларусь мала падыходзіла для бальшавіцкіх эксперыментаў. Гэта адразу заўважыў Вільгельм Кнорын, гаворачы, што «народ не той»: «Беларусь — край, абсалютна пазбаўлены буйной прамысловасці, класічнай дробнабуржуазнай саматужнай вытворчасці... Сялянства забітае больш, чым дзе б тое ні было. Край з надзвычай заблытанымі нацыянальнымі адносінамі. Паміж горадам і вёскай — глухая сцяна непаразумення. Вёска жыве сваім асобным жыццём... Лютаўская рэвалюцыя заспела Беларусь зусім непадрыхтаванай...»

Галоўная гаспадыня таго часу на беларускіх тэрыторыях — вайна, трагічныя наступствы якой апантаны бальшавік быццам не заўважыў, хаця дзякуючы менавіта вайне, хаосу і заняпаду, якія яе суправаджалі, «здзічэласці» абшынеляваных сялян у акопах такія, як ён, перамаглі.

**Працяг на старонцы 21.**

## Самае чытанае на nn.by за лістапад

1. Дзе жывуць і чым займаюцца дзеці лідараў беларускай апазіцыі?
2. Кавер на беларускамоўную песню парваў расійскі Ютуб
3. Гераіня артыкула пра паспяховую дзяўчынуінжынера аказалася порнаактрысай
4. Дзяржаўныя сацыёлагі апублікавалі рэйтынг папулярнасці партый — такога вы яшчэ не бачылі
5. Новая прэс-сакратарка Сяргея Шайгу ўзарвала расійскі інтэрнэт
6. Ад чаго 29-гадовы намеснік дэкана геафака БДУ памёр на працоўным месцы
7. Лукашэнка анансаваў указ па стымуляванні куплі «Джылі»
8. На НТВ прайшліся па Лукашэнку, асвісталі Дзмітрыева
9. Сенсацыя: акадэмікі пракацілі Каваленю
10. «Таварыш Карпенка, а ці вядома вам, з чаго любімыя вамі фіны пачыналі?» Адказ астранома Малышчыца міністру адукацыі сабраў сотні водгукаў

Не забудзьцеся падпісацца на паўгода!

**Мы знізілі цану на падпіску**

Індывідуальная падпіска на 2018 (індэкс у каталозе — **63125**) — **2,53** руб./месяц

Для прадпрыемстваў на 2018 (індэкс — **631252**) — **2,53** руб./месяц

**Афармленне падпіскі цяпер даступнае:**
- праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на сайце **www.belpost.by**;
- праз плацежна-даведкавыя тэрміналы;
- у аддзяленнях паштовай сувязі;
- дома, запрасіўшы паштальёна.

**Атрымаць газету магчыма:**
- па ўказаным адрасе (у паштовую скрыню);
- у абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання» (у пунктах паштовай сувязі);
- з рук у рукі (з дастаўкай да кватэры).

Афармляючы падпіску на абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання», можна скарыстацца зніжкай за дастаўку газеты.

# Чалавек года — Павел Калаўр
# За стабілізацыю рубля

«Наша Ніва» традыцыйна называе людзей, дзякуючы якім гэты год запомніцца і ўвойдзе ў гісторыю.

Чалавекам года «Наша Ніва» сёлета прызнала старшыню Нацыянальнага банка Паўла Калаўра і ягоную каманду — за вяртанне даверу да нацыянальнай валюты.

Летась «Наша Ніва» назвала чалавекам года стваральніцу «Імёнаў» Кацярыну Сінюк — за арганізацыю новых формаў дабрачыннасці. У 2015 годзе — Святлану Алексіевіч, першую беларуску, якая атрымала Нобелеўскую прэмію.

Выбар гэтага года — не звычайны. Звычайна пра чыноўнікаў успамінаюць, калі трэба павесіць адказнасць за няўдачы. Правалы кідаюцца ў вочы, а вось поспехі, нармальнасць — яны часта незаўважныя. Так хутка мы звыкліся і са стабільнасцю фінансаў. Час ідзе, а нашы грошы каштуюць столькі ж, колькі каштавалі. Два гады назад скептыкі прагназавалі, што манеткі хутка стануць нікому не патрэбныя. Ажно не — за даляр як давалі два рублі, так і даюць.

Упершыню за ўсе гады незалежнасці інфляцыя складае ўсяго 6%. Стаўка па рублёвых крэдытах апусцілася ніжэй за 10%. Гэта ўсё стабільнасць, якая вяртае людзям базавы давер да дзяржавы.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пры Калаўру была выпрацавана праграма грашова-крэдытнай палітыкі пры абмежаваным павышэнні грашовай масы – кажучы па-простаму, устаноўлены ліміт на друк грошай. За 11 месяцаў 2017 года, напрыклад, рост шырокай грашовай масы ў эканоміцы склаў каля 8%, хаця раней бывала і па 100%, і па 200%. У правільнасці такой палітыкі Калаўр пераканаў Аляксандра Лукашэнку.

## Роля каманды

Новы эканамічны курс адстойвае цэлая група дзяржаўных дзеячаў, сярод якіх і прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў, і віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі, і намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Мікалай Снапкоў, і кіраўнік новага флагмана беларускай эканомікі, Парка высокіх тэхналогій, Усевалад Янчэўскі. Але канкрэтна стабільнасць валюты заўсёды ўвасабляе кіраўнік Нацыянальнага банка. У Беларусі гэтую пасаду займае Павел Калаўр. Яго не ўсе ведаюць. Затое Пятра Пракаповіча ведалі ўсе.

Стаўка рэфінансавання ў 2017-м паніжалася 8 разоў і цяпер складае 11% проці 25% у 2015 годзе.

«У чым заслуга Калаўра? У тым, што чалавек пачаў паслядоўную працу па стабілізацыі рубля і вяртанні даверу, — расказвае эканаміст Аляксандр Чубрык. — Пры Пракаповічу гаварылася адно, а па выніку мы мелі нешта касмічнае. Раней Нацбанк увогуле не ўспрымаўся як арганізацыя, якая мае нейкую вагу агулам».

Аляксандр Чубрык са спасылкай на інсайды кажа, што Калаўру давялося вельмі цяжка ў разварочванні сістэмы.

«Якая логіка панавала да Калаўра? «Нам трэба грошы — дайце нам грошы». І Нацбанк даваў тым, даваў гэтым, стратным. А тут прыйшоў Калаўр, і яму давялося супрацьстаяць усім гэтым ведамасным памкненням. Нацбанк увёў манетарнае таргетаванне, што значыць рост грашовай масы ў вызначаным калідоры. Фактычна, ён першы ўзяў на сябе адказнасць за такую палітыку, увайшоў у канфрантацыю і трымае сваю лінію», — кажа Чубрык.

Поспех палітыкі «стабільнага рубля» залежаў ад здольнасці тэхнакратаў пераконваць Аляксандра Лукашэнку. Праўда, Калаўру пашанцавала і з кантэкстам, у якім яму давялося дзейнічаць.

«Роля дзяржаўных прадпрыемстваў у эканоміцы змяншаецца, прыватныя прадпрыемствы, калі адняць «Беларуськалій» і нафту, ужо плацяць падаткаў хіба не больш. І змяншэнне гэтай ролі азначае і змяншэнне ціску на Нацбанк. Цяпер ніхто не хоча ўжо высокай інфляцыі, бо ад яе ў першую чаргу церпіць электарат — найбяднейшыя слаі насельніцтва. Гэта стала каштоўнасцю, як і прадказальны валютны рынак — таксама каштоўнасць, ад якой не хочацца адмаўляцца. Бо калі даць слабіну і вярнуць старыя метады кіравання, то вернуцца і старыя праблемы. І Мінфін падтрымлівае Нацбанк. Гэта ж відавочна, што калі павысіцца інфляцыя, то знізіцца ВУП у далярах, вырасце нацыянальны доўг і гэтак далей».

Што ж цяпер найбольшая пагроза фінансавай стабільнасці? Павышэнне заробкаў, не падмацаванае ростам прыбыткаў, лічыць Чубрык.

## Спыніўся станок

Высока ацэньвае працу Калаўра і былы старшыня Нацбанка прафесар Станіслаў Багданкевіч, які некалі і ўзяў Калаўра на работу.

«Дзеянні яго папярэднікаў вялі да інфляцыі. Стваралася бачнасць росту заробкаў без росту вытворчасці, панаваў валюнтарызм у грашовай сферы. Сапраўды, калі казаць простай мовай, то пры Калаўру спыніўся станок. Прыйшло разуменне, што рост заробкаў мае быць прывязаны да росту вытворчасці працы. Роля Калаўра ў тым, што ён узгадніў з Лукашэнкам такую палітыку, данёс гэты прынцып, што не трэба даваць грошы ўсім прагным: прамысловасці, сельскай гаспадарцы... Хай яны самі зарабляюць! Не трэба крэдытамі пакрываць іхнія правалы. Пры такой палітыцы прадпрыемствы не могуць выдаваць незаробленыя грошы, склалася гармонія ў росце заробкаў і росце ВУП».

Багданкевіч кажа, што не бачыць відавочных мінусаў у рабоце Калаўра.

«Гэтыя мінусы ёсць, але яны больш звязаныя са станам рэчаў у эканоміцы і адсутнасцю рынку, а не з асобай старшыні Нацбанка ці яго камандай: нельга толькі з дапамогай Нацбанка стабілізаваць эканамічныя працэсы. ВУП вырас на 2%, а грашовая маса расце хутчэй, у гэтым ёсць праблема. Нямала дзяржаўных кампаній дапускаюць вялізныя выдаткі, якія пакрываюцца з бюджэту. Гэта вядзе да рызыкі павелічэння інфляцыі», — папярэджвае Багданкевіч.

## З Палесся

Павел Калаўр нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Белавуша, на Палессі. Дагэтуль там жывуць ягоныя маці, сястра і брат. З вёскі Калаўр выбіўся ў пінскі тэхнікум, адтуль — у мінскі Наргас (сёння — Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт). Там жа пазнаёміўся з будучай жонкай, у іх двое сыноў — малодшы цяпер робіць аналітыкам у банку «БелВЭБ», старэйшы ж — аналітык, але ў EPAM, найбольшым прадпрыемстве IT-сектара.

Цікава, што кандыдацкую дысертацыю Калаўр абараняў па тэме манетарнага саюза Беларусі і Расіі, канкрэтней — пра перспектывы супольнай валюты. У рабоце Калаўр прыйшоў да высновы, што гэта магчыма толькі ў разе, «калі выкананы ўсе ўмовы і дасягнутая поўная эканамічная інтэграцыя».

Працаваць Калаўр пачаў яшчэ за Саветамі ў сістэме Дзяржбанка, незалежнасць сустрэў у Валожыне, у Белаграпрамбанку. А на работу ў Нацбанк яго ў 1993-м запрасіў тагачасны старшыня Багданкевіч. У гэтай сістэме Калаўр адрабіў 17 гадоў, пасля чаго, у 2010-м, стаў старшынёй банка «БелВЭБ», але праз чатыры гады зноў вярнуўся ў Нацбанк ужо ў якасці боса.

Што вядома пра Калаўра? Калаўра называюць чалавекам, які ўмее слухаць і прыслухоўвацца — да намеснікаў, дарадцаў і экспертаў. На працу ён прыязджае не пазней за 7:30. У той жа час да ночы сядзець не любіць — сыходзіць своечасова, каб пабыць з сям'ёй або заняцца спортам: Калаўр — вялікі аматар лыжаў і вялікага тэнісу, якім займаецца не радзей за два разы на тыдзень. Лыжамі займаюцца і ягоныя сыны.

Жыве ён у Вяснінцы, у «пасёлку банкіраў». У 2007 годзе Мінгарвыканкам выдзеліў зямлю на вуліцы Вілейскай семярым дзяржаўным служачым. Тагачаснаму старшыні Нацбанка Пятру Пракаповічу — 0,15 га. А ўсе ягоныя намеснікі — Павел Калаўр, Юрый Алымаў, Мікалай Лузгін, Уладзімір Сянько, Мікалай Кадушка і Васіль Мацюшэўскі — атрымалі па 0,11 га.

## Пяць парадаў чытачам «Нашай Нівы» па кіраванні асабістымі фінансамі ад каманды Нацбанка

**1. Плануйце свае прыбыткі і выдаткі**

Для гэтага рэкамендуецца скласці асабісты фінансавы план. Гэта важна, каб упарадкаваць свае мэты, аптымізаваць выдаткі, размеркаваць выдаткі грашовыя і выдаткі ў часе.

2. Намагайцеся пазбягаць пазык

Перад тым, як узяць пазыку, задайце сабе некалькі важных пытанняў: ці сапраўды мне так патрэбна гэтая рэч у крэдыт? У колькі мне абыдуцца выплаты? Ці магу я дазволіць сабе такія траты?

**3. Ашчаджайце**

У кожнага чалавека ў жыцці бываюць непрадбачаныя абставіны: ад простых жыццёвых складанасцяў (зламалася машына) да больш сур'ёзных сітуацый (страцілі працу, захварэў блізкі). Для таго, каб быць гатовым да пераадолення жыццёвых цяжкасцяў, патрэбна «падушка бяспекі». Як бы ні было, а старайцеся не менш за 10% ад прыбытку адкладаць.

**4. Параўноўвайце**

Пры выбары фінансавай паслугі параўнайце прапановы розных фінансавых устаноў, вывучце ўмовы некалькіх аналагічных фінансавых інструментаў, абярыце аптымальны варыянт. Памятайце, што грошы не павінны «ляжаць», яны павінны прыносіць даход, працаваць на вас

**5. Ацаніце рызыкі**

Гэта значыць, што пры прыняцці фінансавага рашэння варта заўсёды памятаць пра сваю адказнасць за прынятае рашэнне. У адносінах да ўсіх фінансавых інструментаў дзейнічае правіла: чым вышэйшая прыбытковасць, тым вышэй рызыка.

# Асобы года

«Наша Ніва» традыцыйна называе людзей, дзякуючы якім гэты год запомніцца і ўвойдзе ў гісторыю.


Ніна Шыдлоўская.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Сумленне года — Ніна Шыдлоўская

«Галоўнае — не паднімайце шум», «галоўнае — сядзіце ціха», «нельга патрабаваць, трэба прасіць, дзейнічаць кулуарна» — мы часта чуем такія парады і меркаванні. Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету Ніна Шыдлоўская дзейнічала ў зусім інакшай логіцы. Яна не верыла ў абвінавачванні па Справе патрыётаў і таму ўзнімала шум, дапамагала жонкам і маці арыштаваных і рабіла, што толькі магла. Калі абвінавачванне развалілася, сотні людзей падзякавалі найперш ёй.

Мала хто ведаў, што ў той самы час Ніна моцна хварэла.

«Гады грамадскай дзейнасці пачалі пераўтвараць мяне ў песімістку. А гэты год ува мне разбурыў адзін з песімістычных стэрэатыпаў. Для мяне стала відавочна: усё-ткі беларусы здольныя на салідарнасць! — кажа Ніна Шыдлоўская. — Калі я распачынала хвалю дзеля вызвалення затрыманых па Справе патрыётаў, нават не спадзявалася, што грамадства (а гэта і асобныя людзі, і ініцыятывы, і журналісты — шмат хто) адрэагуе так актыўна і разам нам удасца адстаяць ні за што арыштаваных людзей. То бок усё-ткі простая неабыякавасць мае патэнцыял стаць рухавіком дзейснай салідарнасці! А яшчэ канчаткова пераканалася: сяброўства і каханне — гэта тое, дзеля чаго сапраўды варта жыць».

### Культуртрэгер года — Андрэй Кім


Андрэй Кім.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Рэдкі выпадак, калі мы адзначаем чалавека другі год запар. Але за мінулы год Андрэй змог дасягнуць новых вышыняў. Упершыню ў гісторыі сусветная кінапрэм'ера выйшла ў пракат па-беларуску. Гэта нідэрландская стужка — «Шторм: палаючы ліст». Прысвечаная яна юбілею кнігадрукавання. На прэм'ерах былі тэатралізаваныя паказы, магчымасць сфоткацца з манекенам Францішка Скарыны. Увогуле, складалася ўражанне, што юбілей Скарыны сёлета найбольш адзначала пратэстанцкая грамада, да якой належыць і Кім.

Беларускамоўныя пераклады сусветных стужак дэманстравалі ў найлепшых мінскіх, і не толькі, кінатэатрах.

Які наступны амбіцыйны выклік паставіць перад сабой Кім? Пераклад на беларускую сусветных блокбастараў? Бо глядзець па-беларуску хочацца не толькі мульцікі і рэлігійныя фільмы, але і «Пілу-8», і «Дзюнкерк».

### Змагар года — Зміцер Дашкевіч

Ворагі Беларусі паспрабавалі павесіць на слова «змагар» адмоўную афарбоўку. І многія неразумныя людзі дапамагаюць ім у гэтым, юзаючы «змагара» менавіта ў такім значэнні. Але гэта годнае слова. І Дашкевіч годнымі ўчынкамі заслугоўвае так называцца.

У пачатку год Зміцер Дашкевіч з іншымі маладафронтаўцамі зрабіў тое, што многім здавалася немагчымым: дабіўся спынення будаўніцтва ў ахоўнай зоне каля Курапатаў. Хлопцы начавалі і днявалі там, прапахлі дымам ад «бочкі годнасці». Нехта, як Сяргей Пальчэўскі, ішлі на адчайныя ўчынкі: ён прыкаваў сябе кайданкамі да грузавіка.


Зміцер Бартосік.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Ганна Бахціна.


Зміцер Дашкевіч.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Фота Дашкевіча са сцягам на даху трактара стала сімвалам змагання за Курапаты. Хлопцаў збівалі «цітушкі», але яны выстаялі. Дашкевіч прайшоў сёлета праз СІЗА па Справе патрыётаў.

«Верачы ў перпектыву Беларусі, вось што важна — быць цяпер верными ў малым, бо гэтае малое ёсць сёння нашым самым вялікім. Размаўляйце на роднай, а не на чужой, бегайце за роднымі дзецьмі, а не за (еўра)чыноўнікамі — і будзе заўтра Беларусь», — напісаў нядаўна Дашкевіч.

А яшчэ Зміцер працягвае развіваць свой бізнэс — «Цесляры».

### Адвакатка года — Ганна Бахціна

Спадарыня Бахціна мела за плячыма 38-гадовы прафесійны стаж. Яна не баялася брацца за такія справы, ад якіх адмаўляліся калегі — абараняла Саюз пісьменнікаў, Эніру Браніцкую, Ірыну Халіп, Іллю Валавіка, Эдуарда Пальчыса. Сёлета яна ўзялася за справу Міраслава Лазоўскага — цэнтральную фігуру справы «Белага легіёна». Пасля гэта ў Бахціной і пачаліся праблемы на працы. У выніку яе цынічна пазбавілі ліцэнзіі з фармулёўкай «у сувязі з недастатковай прафесійнай кваліфікацыяй».

Бахціна пацярпела за прафесійную сумленнасць, і грамадства не пакіне яе без абароны.

### Пісьменнік года — Зміцер Бартосік

Сёлетні Гедройц выклікаў пытанні, чаму ў тройцы так і не аказаўся папулярны Андрусь Горват. Але за асобу пераможцы Змітра Бартосіка парадаваліся амаль усе. Бартосік — сумленны інтэлектуал, які аб'ездзіў усю краіну. З запісаў з людзьмі ў вёсках і мястэчках і нарадзілася кніга «Быў у пана верабейка гаварушчы». Гэта рэдкае на сёння ўменне слухаць, а не толькі казаць. Такой рысай валодае Святлана Алексіевіч, цяпер яшчэ Зміцер Бартосік.

«Свабодны тэатр» паставіў па «Верабейку» папулярную пастаноўку, а сам аўтар атрымаў за кнігу 5000 еўра як галоўны прыз прэміі Гедройца. Бартосік шмат гадоў працаваў у «Нашай Ніве», а цяпер піша для «Радыё Свабода».

## Мем года — Вейшнорыя

Паводле легенды вучэнняў «Захад-2017», ад Беларусі адлучаецца частка краіны на паўночным захадзе, так званая Вейшнорыя. Выдуманая краіна гэтак развесяліла беларускі інтэрнэт, што мемы ствараліся адзін за адным. Нават старшыня КХП-БНФ Зянон Пазняк адзначыў: калі беларусы жартуюць, то іх не перамагчы. З'явіліся нават пашпарты грамадзян Вейшнорыі. Калі казаць вельмі груба, то вейшнорцамі жартам сябе сталі называць усе тыя, хто прагне зменаў у краіне і не хоча жыць у «таёжным саюзе».

## Эмігрант года — Аляксандр Сапега

Бабруйчанін з прыгожым шляхетным прозвішчам з'ехаў з Беларусі больш за дзесяць гадоў таму. У Швейцарыі Аляксандр Сапега знайшоў каханне. Аднак на радзіму не збіраецца забывацца. Сапега — вялікі мецэнат беларускай культуры, тым больш высокія швейцарскія заробкі дазваляюць гэта рабіць. Аляксандр паказвае выдатны прыклад для іншых беларусаў, якія з'ехалі з краіны.

Напрыклад, намаганнямі Сапегі ў Беларусь вярнуўся прах князёўны Магдалены Радзівіл, а яшчэ ягонымі намаганнямі ў Швейцарыі з'явіўся помнік кіраўніку антырасійскага паўстання 1794 года Тадэвушу Касцюшку. Шмат было перашкодаў і падводных камянёў, каб той помнік з'явіўся, давялося нават умяшацца Міністэрству замежных справаў. Аднак маем той вынік, што ў Залатурне цяпер ёсць беларускі помнік Касцюшку (ён пахаваны ў гэтым альпійскім горадку).

## Асаблівы выпадак — Ігар Шуневіч

Рэдка хто з чыноўнікаў здольны прыцягваць да сябе столькі негатыўных эмоцый, як гэта ўдалося зрабіць міністру ўнутраных справаў Ігара Шуневічу. Год пачаўся з акцый пратэсту недармаедаў. Нярэдка, як у Мінску ці Магілёве, гэта сканчалася збіццём і затрыманнямі. У мову нават увайшло слова «шуняўкі» — гэта супрацоўнікі міліцыі ў цывільным, якія робяць усю брудную справу. Нешта падобнае было і падчас супрацьстаяння ў Курапатах.

Дарэчы, цікава, што Шуневіч быў сярод тых, хто стаяў за прыняццем закона аб дармаедстве. «МУС ініцыявала абмеркаванне тэмы дармаедства і актуалізавала неабходнасць унясення змяненняў у дзейнае заканадаўства ў гэтым пытанні. Таксама Савету міністраў было даручана агучыць свае прапановы кіраўніку дзяржавы», — тлумачыў Ігар Шуневіч.

Шуневіч працягвае лічыць вялікім гонарам тое, што мае форму супрацоўніка НКВД. Не прызнае сталінскія рэпрэсіі, хаця гэта зрабілі нават высокія чыны ў КДБ. Шуневіча малявалі на графіці, збіралі подпісы за адстаўку, але міністр моцна трымаецца за сваё крэсла.

## Бязвіз года — Уладзімір Макей

Міністр замежных спраў мае рэпутацыю чалавека, здольнага вырашаць складаныя сістэмныя праблемы. Кажуць, што ён дасканала разумее логіку бюракратычнай сістэмы і ніколі не спрабуе мяняць нешта рэвалюцыйна. Затое ён майстар паляпшэння механізмаў і працэдур.

У свой час ён пабудаваў найлепшую ў рэгіёне сістэму надання дзяржаўных паслуг, так званае «Адно акно». Галоўнае дасягненне замежнай палітыкі 2017 года — гэта ўвядзенне пяцідзённага бязвізавага рэжыму для грамадзян Еўрасаюза і ЗША. Летам вечарам па цэнтры Мінска ўвесь час чуеш то англійскую, то італьянскую, то фінскую мовы. Еўрапейцы адкрываюць для сябе невядомую дагэтуль краіну. І гэта ж не прывяло ні да якога калапсу: крымінальная атмасфера не пагоршала.

Замежнікі вязуць у Беларусь грошы, а наша краіна дзеліцца з заходнікамі прыемным баўленнем часу і яркімі ўражаннямі.

Наступны крок — павялічыць гэтыя пяць дзён да большага тэрміну ці скасаваць увогуле абмежаванні.

Уладзімір Макей звяртаў на сябе ўвагу цэлы год. Ён апранаў вышыванку, гаварыў па-беларуску. Нават асцярожна асудзіў масавыя затрыманні падчас «дармаедскіх» пратэстаў. Менавіта ўмяшальніцтва Міністэрства замежных спраў дазволіла не дэпартаваць з краіны найлепшага ўкраінскага пісьменніка сучаснасці Сяргея Жадана.

На саміце «Усходняга партнёрства» ў Брусэлі Макей паабяцаў, што праз два гады Мінск заключыць такія пагадненні з ЕС, пра якія будуць гаварыць усе.


Уладзімір Макей.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Ігар Шуневіч.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Аляксандр Коржыч.



Улад Бумага з прыхільніцай.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Аляксандр Сапега.

## Музыкі года — Naviband

Арцём і Ксенія з гурта *Naviband* змаглі прабіць той мур чыноўнікаў, якія ўбілі сабе ў галаву, што якасную і сучасную музыку трэба абавязкова рабіць па-руску ці англійску. Упершыню на «Еўрабачанні» загучала менавіта наша мова. І гледачы ацанілі гэта, юнакі выйшлі ў фінал. Ды і ўвогуле на «Еўрабачанні» сёлета перамагла песня на нацыянальнай мове — партугальскай.

Чаму *Naviband* атрымалі такую папулярнасць? Бо яны бралі сваёй шчырасцю.

Нядаўна стала вядома, што Ксенія і Арцём чакаюць дзіця.

## Блогер года — Улад Бумага

Сёлета нечакана для сябе многія адкрылі, што існуе цэлы пласт зусім уже моладзевай культуры, у якой ёсць свае зоркі і куміры. Прычым гэта «селебрыці» не маскоўскага ці нью-ёркскага паходжання, а свае, тутэйшыя. На вяршыню хвалі выбіўся 20-гадовы мінскі блогер Улад Бумага. Ягоныя відэа немудрагелістыя, але набіраюць тысячы і тысячы праглядаў. Дарослыя ламаюць сабе галовы: што ж дзеці знаходзяць у іх цікавага? Але не судзіце вельмі строга, успомніце сябе ў школьныя гады, тады, можа, захапленне Бумагай не падасца вам такой ужо заганай.

## Шараговец года — Аляксандр Коржыч

21-гадовы navабранец з Пінска загінуў праз некалькі месяцаў службы ў печанскай вучэбцы. Усё яшчэ да канца няясна, ці гэта было забойства, ці давядзенне да самагубства. Аднак гэты выпадак агаліў праблему дзедаўшчыны ў беларускім войску. Заганная з'ява яшчэ з савецкіх часоў у некаторых часцях не толькі не знікла, але нават умацавалася. Цяпер дзедаўшчына — гэта не толькі фізічны ціск, але і эканамічны, і сэксуальны. Сяржанты, адчуваючы сваю беспакаранасць і лаяльнасць афіцэраў, робяць страшныя рэчы. І смерць Коржыча стала каталізатарам, каб многія людзі, якія шмат гадоў маўчалі пра вайсковыя прыніжэнні, нарэшце загаварылі.

Чаму смерць Сашы Коржыча стала такой рэзананснай? Бо не змаўчала маці, пачала змагацца за праўду, і таму што існуюць недзяржаўныя СМІ. У выніку была вымушаная рэагаваць улада, прычым на самым высокім узроўні. Нейкія змены ў Печах і іншых часцях ужо адбываюцца. Галоўнае, каб яны не сталі касметычнымі і дэкаратыўнымі, а сістэма засталася той жа. Бо не павінны бацькі са страхам аддаваць сваіх дзяцей у армію.

## Спартоўкі года — тэнісісткі

Год не быў ураджайны на спартовыя перамогі. Уявіце толькі: усе беларускія мужчыны на чэмпіянатах свету — 2017 змаглі заваяваць усяго толькі адзін медаль. У жанчын сітуацыя крыху лепшая, аднак перад наступнымі Алімпіядамі сітуацыя ўсё адно не самая прыемная.

Можна сказаць, што яркі сполах у спорце ў 2017 годзе быў толькі адзін — выступ жаночай зборнай па тэнісе на Кубку Федэрацыі. Нашыя дзяўчаты, без Азаранкі, дайшлі да фіналу, дзе толькі ў апошнім, пятым, паядынку саступілі амерыканкам. Такіх вышыняў беларускі тэніс яшчэ не дасягаў. Галоўнымі стваральніцамі перамогі сталі Аляксандра Сасновіч і Арына Сабаленка.

На наступны год застаецца не здаваць пазіцыі. Магчыма, і Вікторыя Азаранка, вырашыўшы сямейныя праблемы, далучыцца да гэтай кампаніі.

**Зміцер Панкавец**

# Дзе жывуць і чым займаюцца дзеці лідараў беларускай апазіцыі?

Іх бацькі — вядомыя і заўважныя ў краіне людзі, якія дэкларуюць непадзельнасць свайго лёсу з будучыняй Беларусі: гэта не толькі палітыкі, але і грамадскія дзеячы, праваабаронцы. Але дзе жывуць і чым займаюцца іх дзеці?

«Наша Ніва» даведалася — мы склалі адмысловы спіс, знайшлі старонкі ў сацсетках, пагаварылі з бацькамі.

Даведайцеся і вы.

У **Мікалая Статкевіча** дзве дачкі ад першага шлюбу, абедзве жывуць у Нямеччыне.

Вучыліся яны ў Беларусі, але потым па даследчыцкіх праграмах паехалі вучыцца за мяжу і там засталіся. Адна з дачок, Кацярына, нават абараніла доктарскую — жыве ў Інгальштаце. Яе профіль — прамысловая лагістыка.

Абедзве — замужам за эмігрантамі з былога СССР.

У дэпутаткі **Ганны Канапацкай** двое дзяцей, жывуць яны таксама ў Германіі.

«Дзеці ў Нямеччыне не застануцца, сказалі, што будуць вяртацца ў Беларусь — гэта не маё, іх рашэнне», — запэўнівала дэпутат пасля абрання ў Палату прадстаўнікоў.

У лідара АГП **Анатоля Лябедзькі** адзін сын, яму 32 гады, працуе ў Мінску.

Доўгі час хлопец не мог адшукаць у Беларусі работу, хоць скончыў прэстыжны факультэт міжнародных адносін БДУ. Як кажа Лябедзька-старэйшы, ён ужо сам падбухторваў сына пашукаць работу за мяжой, але ўрэшце склеілася — хлопца ўзялі ў адну мінскую кампанію ў сферы нерухомасці.

«Не буду адказваць. Гэта прыватныя справы, усяго добрага», — так на пытанне пра дзяцей адказаў нам мовазнаўца і адзін з лідараў аргкамітэта «Беларускага руху» **Вінцук Вячорка**.

Вядома, што ў Вінцука трое дзяцей. Старэйшая дачка Радаслава жыве ў Барселоне.

Сярэдняму сыну, Франаку, хутка будзе 30 гадоў, ён працуе ў Беларускай службе амерыканскага «Радыё Свабода», а ў дадзены момант вучыцца ва ўніверсітэце ў ЗША.

Малодшая ж дачка Вінцука, Ружана, вучыцца на біяфаку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску.

У дэпутаткі **Алены Анісім** трое дарослых сыноў, усе жывуць у Беларусі.

Вышэйшай адукацыі, да жалю бацькоў, не атрымалі, расказвала Анісім. Але ўсе дзеці пры справе: адзін рамантуе машыны, другі — тэлефоны, трэці працуе ахоўнікам.

У старшыні Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандра Ярашука** трое сыноў, двое з іх жывуць у Беларусі, трэці ўжо 11 гадоў жыве ў Нью-Ёрку.

Ён пераехаў туды, выйграўшы амерыканскую грын-карту. Як кажа Ярашук, сын застаецца патрыётам Беларусі і прыязджае на радзіму адзін раз на год.

Лідар камуністычнай партыі «Справядлівы свет» **Сяргей Калякін** мае двух дзяцей, яны працуюць у Мінску.

Абое ўжо дарослыя: дачцэ 36 год, сыну 25. Яны інжынеры, дачка працуе на заводзе, а сын — у прыватнай кампаніі.

У паэта **Уладзіміра Някляева** дзве дачкі. Старэйшая жыве ў Маскве — пераехала туды яшчэ за Саветамі. Малодшая жыве ў Хельсінкі, працуе менеджаркай у культурнай сферы.

**Зянон Пазняк** родных дзяцей не мае, але ў яго ёсць прыёмная дачка Надзея. Яна працуе на тэлеканале «Белсат», жыве ў Варшаве.

Яна замужам за такім жа беларусам-эмігрантам.

Старэйшы сын **Алеся Лагвінца**, Антось, вось толькі-толькі скончыў варшаўскі палітэх, цяпер шукае работу, малодшы яшчэ малы.

«Працу Антось шукае ў Беларусі і Польшчы, — сказаў нам Лагвінец. — Я вельмі хачу, каб мае сыны былі прыстойнымі людзьмі і беларусамі, дзе ж яны будуць знаходзіцца — справа іхняга выбару. Напрыклад, два гады павучыцца ў Францыі і вярнуцца ў Беларусь мне нічога не перашкодзіла. Можна пазнаваць іншыя культуры, а потым вярнуцца ў Беларусь. А можна зарабляць грошы і дзейнічаць на карысць Беларусі з-за мяжы».

У шматгадовага старшыні Таварыства беларускай мовы **Алега Трусава** адна дачка.

«Жыве яна, вядома, у Беларусі, — запэўніў Трусаў. — Скончыла Універсітэт культуры, цяпер працуе ў бібліятэцы. А ўнучка вучыцца ў беларускамоўнай гімназіі».

Дачка **Дзмітрыя Бандарэнкі** з «Хартыі'97», Юлія, жыве ў Польшчы, як і яе бацька.

Нядаўна, калі «Хартыю-97» штарміла, гэты папулярны партал перарэгістравалі на яе.

У **Вячаслава Сіўчыка** двое сыноў: адзін жыве ў Фінляндыі, другі вучыцца ў Польшчы.



Кацярына...




...і Ганна Статкевіч жывуць у Нямеччыне.



Арцём Лябедзька працуе ў Мінску.



Радаслава Вячорка эмігравала ў Іспанію.



Адзін з сыноў Ярашука жыве ў ЗША.



Ружана Вячорка вучыцца на біяфаку БДУ.



Ева Някляева з бацькам.



Надзея, прыёмная дачка Пазняка.

«Малодшы вучыцца ў Варшаўскім універсітэце [па праграме Каліноўскага], спецыяльнасць кшталту «эксперт па справах Усходняй Еўропы», ужо на другім курсе магістратуры, — расказала нам Ганна Сіўчык, жонка Вячаслава. — Ён там мае працу [працуе на «Белсаце» — **НН**], але пра далейшыя планы пакуль невядома, хлопцу 22 гады. А яшчэ адзін працуе ў Фінляндыі, яму ўжо 31 год. Паралельна вучыцца ў дактарантуры».

У сям'і экс-кандыдата ў прэзідэнты **Аляксандра Мілінкевіча** трое сыноў.

Двое з іх засталіся ў Польшчы пасля навучання па праграме Каліноўскага.

«Ігар Кулей працуе на «Белсаце», без нашай дапамогі ўладкаваўся, па конкурсе, — сказаў «Нашай Ніве» Мілінкевіч. — А Вітаўт Мілінкевіч займаецца бізнэсам — развівае аўтамабільны сэрвіс».

«Ёсць яшчэ старэйшы сын, Аляксандр, жыве пад Гародняй, у вёсцы Бершты, адкуль паходзіць род Мілінкевічаў — там спрабуе зялёным турызмам займацца. Ці не прыкра, што з'ехалі? Ведаеце, павінны быць магчымасці вяртання для тых людзей, якія атрымалі на Захадзе адукацыю. Бо гэта няпростая справа: з напругай прызнаюцца бакалаўрыяты, магістарскія — цяжка, а доктарскія трэба наноў абараняць. Гэта сур'ёзная праблема, але ёсць яшчэ адна — праблема самарэалізацыі. Я хацеў бы, каб яны вярнуліся. Але так было і ў гісторыі Чэхіі, Грузіі, Эстоніі, Польшчы... Калі людзі набіраліся досведу, а потым вярталіся ў час рэформаў дапамагаць краіне. Я думаю, што і ў нас так будзе. І казаць, што абавязкова ўсе павінны прыехаць і быць тут беспрацоўнымі — гэта неразумна і несумленна».

Старшыня БНФ **Рыгор Кастусёў** выгадаваў траіх дзяцей — дзвюх дачок і сына.

«Старэйшая, Галіна, скончыла магілёўскі педуніверсітэт, цяпер глядзіць траіх дзяцей. Другая дачка, Кацярына, скончыла школу з залатым медалём, пасля Акадэмію музыкі і цяпер вучыць музыцы іншых — працуе ў Магілёве. Сын Андрэй [па праграме Каліноўскага] скончыў універсітэт у Гданьску, там жа дактарантуру, і цяпер там займаецца бізнэсам. Ён хацеў бы і вярнуцца сюды, чакае, пакуль яго дзяўчына скончыць універсітэт. Але спачатку і тут трэба знайсці працу, бо папярэдні досвед так сабе: без працы некалькі разоў заставаўся я сам, звальнялі са школы маю старэйшую дачку, звальнялі другую дачку за дапамогу бацьку, у сына былі тут праблемы з вучобай, і ён вымушаны быў з'ехаць на вучобу, хаця і быў пераможцам абласных алімпіяд», — расказвае Кастусёў.



Ігар Кулей працуе на «Белсаце».





Алесь Лагвінец з сынамі.



У Андрэя Дмітрыева — трое.



Адам Бяляцкі спрабуе сябе рэалізоўваць у сферы мастацтваў у Польшчы.

У прафсаюзнага лідара **Генадзя Фядыніча** двое сыноў, абодва жывуць у Беларусі.

«Малодшы айцішнік, старэйшы заняты ў сферы рэкламы, там сумеснае прадпрыемства з еўрапейцамі», — патлумачыў Фядыніч.

У філосафа і колішняга кіраўніка «ЕўраБеларусі» **Уладзіміра Мацкевіча** двое дзяцей.

«У мяне ёсць сын ад першага шлюбу, калі я жыў у Латвіі. Ён напалову латыш, грамадзянін Латвіі, але ў пашпарце ён сябе піша беларусам — у іх там ёсць такая графа. Але цяпер ён працуе ў Лондане, мае дзяцей.

А дачка ад другога шлюбу вучылася завочна ў Наргасе і на дзённым у Варшаве. Потым працавала тут, у кансалтынгавай фірме. Але атрымала стыпендыю на навучанне ў Варшаўскім універсітэце на міжнародных фінансавых адносінах, скончыла. Ёй прапаноўвалі працаваць у «Варгеймінгу», але не ў мінскім офісе, таму яна адмовілася, бо хацела штосьці тут. Ну і цяпер працуе ў Польшчы, падвышае кваліфікацыю, але і шукае штосьці тут. Яна даволі добры спецыяліст, таму на абы-што не пойдзе», — сказаў Мацкевіч.

Сын праваабаронцы **Алеся Бяляцкага**, Адам Бяляцкі, жыве ў Польшчы, куды выехаў па праграме Каліноўскага. Перад тым ён вучыўся ў мінскай Акадэміі мастацтваў.

У сферы мастацтваў ён і спрабуе сябе рэалізоўваць.

Малы сын **Андрэя Саннікава** разам з маці Ірынай Халіп жыве ў Мінску.

Сам Саннікаў — у Варшаве, ён пакінуў Беларусь пасля таго, як яго зняволілі за арганізацыю паслявыбарчых пратэстаў у 2010.

У **Віталя Рымашэўскага** таксама малая дачка.

Дачка **Сяргея Навумчыка** разам з бацькамі жыве ў Чэхіі.

Сыну **Таццяны Караткевіч** 14 гадоў, ён яшчэ школьнік, вучыцца ў Мінску.

У **Змітра Дашкевіча** — двое малых, у **Яраслава Раманчука** таксама дзіцяці некалькі гадоў.

**Арцём Гарбацэвіч; фота з сацыяльных сетак**

# Як падмануты работнік правучыў працадаўцу і як з гэтага не выйшла нічога добрага

У канцы снежня 2016 года мінчук Мікіта Кіжлай убачыў аб'яву, што нехта ІП Кавецкі шукае сісадміна для працы з сайтамі. Заробак абяцалі невялікі — 100 рублёў, але Кіжлай зацікавіўся, бо падпрацоўка не лішняя.



Кіжлай схадзіў на сумоўе. Здаецца, працадаўца і работнік задаволілі адзін аднаго.

Дамовіліся, што Мікіта мусіць займацца рэдагаваннем ужо існуючых сайтаў *080.by*, *breneran.by*, *kedroff.by*, *xalva.by* і таксама стварыць два новыя сайты. Замаўляў працу 39-гадовы Станіслаў Кавецкі.

«З студзеня 2017 г. паміж мной і Кавецкім Станіславам Баляслававічам была заключана дамова падраду, першыя грошы я атрымаў у сярэдзіне студзеня 2017 года ў памеры 99 рублёў 94 капейкі — гэта была аплата за студзень», — узгадвае Кіжлай.

Пасля ў лютым заключылі яшчэ адну дамову падраду, яе Кавецкі таксама аплаціў.

Затым Кіжлай працягваў займацца сайтамі, ад Кавецкага паступалі заданні, але ж дамовы больш не падпісваліся. За сакавік і красавік грошай Кіжлаю, па яго словах, таксама не далі. «На пытанні Станіслаў Кавецкі адказваў, што заняты на нейкай будоўлі, не мае часу, але дамовы нібыта ўжо ў бухгалтара, і, як толькі знойдзецца вольны дзень, усё будзе падпісана і аплачана», — сцвярджае Мікіта Кіжлай.

Так цягнулася да чэрвеня. У вольны час Кіжлай пагартаў Грамадзянскі кодэкс і зацікавіўся артыкулам 666, згодна з якім падрадчык, калі працадаўца не плаціць, можа прытрымаць вынікі працы і маёмасць заказчыка, якой карыстаецца. Вось Кіжлай і вырашыў «прытрымаць» сайты Кавецкага. Мікіта змяніў паролі адміністратара і павесіў на стартавыя старонкі сайтаў заглушку з надпісам: «Сайт часова недаступны, заплаціце сістэмнаму адміністратару».

Пасля Кіжлай пачаў чакаць званкоў ад заказчыка. Але іх не было. Па словах Кіжлая, ён спрабаваў сам звязацца з Кавецкім, але безвынікова. Тады Кіжлай увогуле заблакаваў сайты, зрабіўшы так, каб яны не загружаліся.

Але ж у канцы чэрвеня сайты аднавілі працу. Хутчэй за ўсё, Кавецкі зрабіў гэта праз хостара. Разззлаваны Кіжлай тады цалкам выдаліў сайты з хостынгу. Рэзервовыя копіі захаваў на сваім жорсткім дыску.

Пасля гэтага 4 ліпеня Кавецкі ўсё ж выйшаў на сувязь. Ён паабяцаў, што падпіша дамовы за тры вясновыя месяцы і заплаціць 300 рублёў. З Кіжлая ён папрасіў расціску, што таму аддалі грошы, той пагадзіўся.

«Я напісаў распіску, адправіў яе Кавецкаму С.Б. па электроннай пошце і 24 ліпеня 2017 года паехаў да яго ў офіс (ён патэлефанаваў і запрасіў мяне). Планаваў атрымаць грошы за сваю працу. Аднак замест выплаты ў офісе мяне чакалі супрацоўнікі міліцыі, якія запрасілі мяне ў Маскоўскае РУУС Мінска», — распавядае Мікіта Кіжлай.

Па яго словах, Кавецкі казаў міліцыі, што Кіжлай не працуе на яго, але з невядомай прычыны ламае сайты і патрабуе грошай. Пасля размовы з міліцыяй Кіжлая адпусцілі.

Мікіта збіраецца пісаць на свайго заказчыка заяву пра паклёп і прысваенне інтэлектуальнай маёмасці. Але пакуль што на самога Кіжлая распачата крымінальная справа. Ён на волі, але пад падпіскай. Яго вінавацяць у несанкцыянаваным доступе да камп'ютарнай інфармацыі з карыслівых прычын, у камп'ютарным сабатажы. Максімальнае пакаранне па апошнім артыкуле КК — 10 гадоў.

Сам Кіжлай вінаватым сябе не лічыць.

«Я не вымагаў грошы, а хацеў атрымаць заробленае, не больш. Лічу, што дзейнічаю законна і кіруюся палажэннямі Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь. У сваю чаргу, Кавецкі падмануў мяне», — упэўнены Кіжлай.

Няўжо ж той працадаўца сапраўды настолькі несумленны? «Наша Ніва» пацікавілася асобай Станіслава Кавецкага.

Станіслаў Баляслававіч Кавецкі меў дачыненне да цэлага шэрагу фірмаў. Прычым усе з гучнымі назвамі: ТАА «Спецваенкантракт», ТАА «АльфаТрайпл», ТАА «ТрайплГруп», «ТНК Альфа». Нягледзячы на назвы, як да чыжоўскага «Трайпла», так і да ваенных кантрактаў яны дачынення не маюць, а займаюцца адным і тым жа — продажам абсталявання для саўн, продажам катлоў, печаў, альтанак і прыладаў для барбекю.

Цікава, што розныя агрэгатары водгукаў аб працадаўцах адразу выдаюць прозвішча Кавецкага. Былыя супрацоўнікі скардзяцца на нявыплаты грошай і падман з боку былога начальніка.

Але шмат чаго пра Кавецкага могуць расказаць не толькі яго былыя супрацоўнікі. Добра памятае Станіслава Баляслававіча і кіраўнік аднаго з мінскіх СТА Андрэй.

«Ён падаваў на нас у суд у 2015 годзе. Гісторыя была феерычная, у 2014 Кавецкі прыгнаў да нас старую машыну з кучай праблем, каб адрамантаваць. І знік. Машына як стаяла, так і стаяла, мы вырашылі за яе не брацца, калі гаспадар не прыходзіць. А праз год ён аб'явіўся, заявіў, што мы цяпер мусім сплаціць яму грошай за тую машыну і купіць новае аўто, — узгадвае Андрэй. — Кавецкі пайшоў у суд, але прайграў. Пасля абскарджваў рашэнне, але суд быў на нашым баку».

Акрамя таго, Андрэй падчас суда высветліў цікавы момант. Дырэктарам адной з фірмаў Кавецкага працаваў чалавек, знаёмы Андрэю.

«Хлопца звалі Аляксандр Г., мы яго добра ведалі. Ён прыходзіў часам да нас на СТА, бо жыў недалёк, мы яго падкармлівалі, аддавалі старое адзенне, ён часам у нас прыбіраў. А пасля высветлілася, што ён дырэктар нейкага ТАА ў Кавецкага, — расказаў «Нашай Ніве» Андрэй. — Сам той Аляксандр быў, канечне, задаволены, расказваў нам, што Кавецкі яму «снікерсы» дае».

«Наша Ніва» звязалася з сям'ёй Аляксандра. Яго брат пацвердзіў: у Аляксандра сапраўды праблемы, цяпер вырашаецца пытанне аб атрыманні ім 2 групы інваліднасці і нават аб пазбаўленні яго дзеяздольнасці.

«Нейкія суды калісьці, можа, і былі, я не памятаю. Пра дырэктарства сказаць нічога не магу — я тады не ведаў, дзе і што робіць Аляксандр», — паведаміў брат.

А сёлета Кавецкі судзіцца з мінскай будаўнічай кампаніяй «ДарімСтрой». «Ён паставіў нам матэрыялы для лазні. У дамове была прапісана дзікая пеня — 1% за дзень — але мы не звярнулі ўвагі, бо планавалі аддаць грошы хутка. Але ўсё выйшла зусім не так, — расказалі «Нашай Ніве» ў кампаніі. — Да якасці матэрыялаў былі пытанні. Мы хацелі іх замяніць, але Кавецкі знік. У выніку мы замянілі матэрыялы за свой кошт, але не змаглі вырашыць пытанне з Кавецкім наконт матэрыялаў і грошай, бо з ім немагчыма было звязацца.

Сам жа Кавецкі аб'явіўся толькі праз месяцаў 5 з паведамленнем, што падаў у суд, каб спагнаць пеню».

Кіраўніцтва ААТ «ДарімСтрой» запэўнівае, што не супраць аддаць Кавецкаму грошы за матэрыялы, і прапанавала яму гэта ў судзе, але ён настойвае, што хоча пеню. Сума сёння — каля $5 тысяч і працягвае расці.

Але і гэта яшчэ не ўсё. У 2016 годзе ў Станіслава Кавецкага была яшчэ адна справа: яго судзілі за ўхіленне ад сплаты падаткаў.

Самога Кавецкага знайсці няпроста. Яго асабісты тэлефон адключаны.

Нумара ААТ «Спецваенкантракт» не існуе. У кампаніі «АльфаТрайпл» слухаўку падняў мужчына, які назваўся Сямёнам. Ён адмовіўся называць сваю пасаду і папрасіў больш не званіць, бо «Кавецкі тут больш не працуе».

Тым часам беглы пошук выдае ажно 3 кампаніі, якія ў розны час былі зарэгістраваныя ў Смаленску. Адна пад назвай ТАА «СССР», займалася вытворчасцю хімічных рэчываў, другая — ТАА «Трайпл» — будаўнічымі працамі. Трэцяя «Інтэко» — і будаўнічамі працамі, і гандлем будматэрыяламі. Ва ўсіх заснавальнікам пазначаны нехта Станіслаў Баляслававіч Кавецкі.

Праўда, праз дзень пасля званкоў на «АльфаТрайпл» Кавецкі сам пазваніў у «Нашу Ніву» — чамусьці са схаванага нумара.

Кавецкі сцвярджае, што Кіжлай хлус.

«Са снежня па сакавік Кіжлай працаваў па дамове падраду. Рабіў нам сайт тры месяцы. Атрымліваў па 100 рублёў у месяц. Вясной 2017 года мы разарвалі з ім дамову, бо ён не паспяваў рабіць тое, што трэба. З вясны ён нічога не рабіў, а летам заблакаваў 10 нашых сайтаў — паралізаваў усю працу, — кажа Кавецкі. — І проста на экране напісаў: я хачу грошы, плаціце грошы, я аднаўлю сайты. Мы запрасілі яго ў офіс, ён сказаў, што больш так рабіць не будзе. Мы пайшлі з ім у банк, заплацілі яшчэ яму грошай (100 рублёў), ён напісаў распіску. Праз тыдзень заблакаваў яшчэ два сайты — яшчэ захацеў грошай. І што нам было рабіць?»

Па словах Кавецкага, сёння ўсе яго кампаніі, ані ў Мінску, ані ў Смаленску, не працуюць. «АльфаТрайпл» фінансава-гаспадарчай дзейнасці не вядзе (праўда, пры званках журналіста ў «АльфаТрайпл» таямнічы Сямён настойліва пытаўся, што хацелі б купіць).

Сёння Станіслаў Кавецкі, па яго словах, адзінокі іпэшнік, які прадае ацяпляльнае абсталяванне. Але далей размова з ім набыла сюррэалістычнае адценне.

Які ў ІП Кавецкага сёння сайт? Як знайсці, калі трэба будзе набыць абсталяванне?

«Я ні аб чым даваць справаздачу не магу, не маю права, праўда?»

Ці была ў самога Кавецкага судовая справа за ўхіленне ад сплаты падаткаў?

«Незразумелая інфармацыя. Недакладная. Кіжлай вас падманвае».

Ці можа Кавецкі расказаць падрабязней пра суд з СТА?

«Я так разумею, у вас іншых справаў няма, знайшлі смеццевую яму, якая называецца Мікіта Кіжлай? Калі ў чалавека гаўна шмат, больш чым галава, гэтае гаўно цяпер вылазіць. Трэба напісаць пра Кіжлая, што яму пагражае да пяці гадоў!»

А што з судом з кампаніяй «ДарімСтрой»?

«10 судовых справаў выйграў ІП Кавецкі. Зразумела гэта? Даўжнік не плаціць грошы, што тут незразумелага».

А хто той Аляксандр Г.? Ці быў ён дырэктарам чагосьці?

«Калі гаўна шмат у чалавека, ён будзе даставаць гэтае гаўно і спрабаваць абмазаць ім іншага чалавека, каб таму было горш». «Ужо баліць галава. Гэта непрафесійна. Як толькі з'явіцца нейкае гаўно, у любой газеце — я праз дзень буду ў Рэдакцыі!» — пагражаў нам па тэлефоне Кавецкі.

* * *

Увогуле, да многіх нашых суразмоўцаў у гэтай гісторыі ёсць пытанні.

Што Мікіту Кіжлаю забараняла пракансультавацца з юрыстамі ці праваабаронцамі перад блакаваннем тых сайтаў?

Але маем тое, што маем. А кропку ў гэтай гісторыі паставіць суд.

**Улад Швядовіч**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.
**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 316-48-13**

**CESLIARY.BY**
МЭБЛЯ І ЦЕСЛЯРСКІЯ ПРАЦЫ У МІНСКУ
**Цяслярскія працы**
Шафы-купэ, кухні ды любая іншая мэбля Вашае мары!
+375 44 461-90-20 (Velcom)
+375 29 749-90-20 (МТС)

ІП Дашкевіч Д. В., УНП 691599592

# Польскі ўрад знайшоў 4,7 мільёна еўра на «Белсат» у бюджэце будучага года

Урад Польшчы мае вылучыць каля 20 млн злотых на фінансаванне дзейнасці тэлеканала «Белсат» у 2018 годзе. Гэта больш за 4 млн 760 тыс. еўра ў эквіваленце, паведамляе партал *press.pl*.

Такую суму тэлебачанне атрымае дзякуючы папраўцы ў польскі закон аб бюджэце, якую на разгляд у Камісію публічных фінансаў унесла адна з дэпутатак кіроўнай кансерватыўна-каталіцкай партыі «Права і справядлівасць», паведамляе «Польскае Радыё».

Паводле рэсурса, магчымасць, што папраўка не будзе прынятая дэпутатамі, раўняецца амаль нулю, паколькі яе прыняцце падтрымлівае кіраўнік кіроўнай партыі Яраслаў Качыньскі, якога называюць «чалавекам нумар адзін» у польскай дзяржаве.

Афіцыйны прадстаўнік «Белсата» ў Беларусі Аляксей Мінчонак сказаў «Нашай Ніве», што пленарнага галасавання па папраўцы ў польскім парламенце пакуль не было, але ён спадзяецца на добры вынік.

Штогод на функцыянаванне «Белсата» патрэбна 27—28 млн злотых. Да 2016 года МЗС Польшчы давала са свайго бюджэту на тэлеканал ад 16 млн да 20 млн злотых у залежнасці ад года. Частка грошай паступала ад замежных грантадаўцаў, урадаў ды кампаній.

30 снежня 2016 года Міністэрства замежных спраў Польшчы ў аднабаковым парадку спыніла пагадненне аб фінансаванні «Белсата». 10 снежня тэлебачанне адзначыць 10-гадовы юбілей.



# Памёр харвацкі генерал, які выпіў атруту ў Гаагскім трыбунале падчас абвяшчэння прысуду

Генерал баснійскіх харватаў Слабадан Праляк падчас разгляду яго апеляцыі ў Міжнародным трыбунале па былой Югаславіі выпіў цыяністы калій. Ён памёр на месцы, нягледзячы на неадкладную медычную дапамогу.

Гаагскі суд разглядаў апеляцыю Праляка і яшчэ пяці баснійскіх харватаў на прысуд, вынесены ім у 2013 годзе. Праляка тады прызналі вінаватым у ваенных злачынствах супраць баснійскіх мусульман і прысудзілі да 20 гадоў пазбаўлення волі.

Пачуўшы, што прысуд застаецца ў сіле, Праляк устаў і паднёс руку да рота, адкінуўшы галаву назад. Выглядала гэта так, быццам генерал выпіў з невялікага келіха нейкую вадкасць.



Пасля гэтага ён сказаў суддзі: «Я прыняў атруту». Адвакат Праляка таксама заявіла, што гэта была атрута.

Суддзя неадкладна абвясціў, што пасяджэнне прыпынена. Праляку выклікалі медыкаў.

Раней трыбунал зацвердзіў прысуд лідару баснійскіх харватаў Ядранку Прлічу — чатыры гады таму яму далі 25 гадоў.

Прліч і Праляк уваходзілі ў кіраўніцтва непрызнанай рэспублікі Герцаг-Босна, якая ўтварылася ў 1991 годзе ў выніку распаду Югаславіі і баснійскай вайны.

У 2004 годзе Праляку і яшчэ пяці генералам былі выстаўленыя абвінавачванні ва ўдзеле ў катаваннях і масавых забойствах мусульман у Босніі ў 1993 годзе, яны добраахвотна здаліся Міжнароднаму крымінальнаму трыбуналу па былой Югаславіі ў Гаазе.

Да вайны Праляк быў галоўным рэжысёрам тэатраў у Заграбе і Осіеку. За час вайны ён даслужыўся да генерал-лейтэнанта і сябра Рады абароны Харватыі.

**Сяргей Гезгала**

## Парашэнка: Мінімальны заробак ва Украіне вырасце да 150 даляраў

Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка заявіў, што з наступнага года плануе падняць мінімальны заробак ва Украіне да 4100 грыўняў (300 беларускіх рублёў у эквіваленце, або каля 150 даляраў)

Пра гэта ён распавёў падчас выступу на II Усеўкраінскім форуме аб'яднаных суполак 4 снежня ў Кіеве, піша «Украінская праўда».

Ён дадаў, што звярнуўся да прэм'ера Уладзіміра Гройсмана з прапановай павялічыць мінімальную заработную плату ва Украіне да 4100 грыўняў.

Сёння мінімальны заробак у паўднёвых суседзяў складае 3 200 грыўняў (237 рублёў, або 118 даляраў).

Нагадаем, што мінімальны заробак у Беларусі складае 265 рублёў (132 даляры).



# Прэзідэнцкі рэйтынг Навальнага ў Расіі складае 3% — сацыёлагі

Калі б выбары адбыліся сёння, Пуцін набраў бы 67% галасоў. Усе апаненты Уладзіміра Пуціна разам набралі б 25% галасоў, яшчэ 8% не вызначыліся, за каго галасаваць.

Такія вынік дало сацыялагічнае апытанне, праведзенае кампаніяй «Ромір», эксклюзіўным прадстаўніком *Gallup International* у Расіі і СНД.

Другое месца па папулярнасці пасля Пуціна займае Уладзімір Жырыноўскі, даўні спарынг-партнёр прэзідэнтаў Расіі і старшыня псеўдаапазіцыйнай Ліберальна-дэмакратычнай партыі. У яго 8% галасоў.

На трэцім месцы — іншы спарынг-партнёр і кіраўнік іншай псеўдаапазіцыйнай, Камуністычнай, партыі Генадзій Зюганаў з 7%.

Антыкарупцыйны блогер Аляксей Навальны мае падтрымку 3% выбарцаў. Яшчэ 2% гатовыя галасаваць за ліберала Рыгора Яўлінскага. Столькі сама дэкларуюць падтрымку Ксеніі Сабчак, але яна ж мае і найбольшы негатыўны рэйтынг спасярод усіх кандыдатаў — 64%. У Навальнага антырэйтынг складае 33%, па ім ён на другім месцы.

Выбары ў Расіі адбудуцца 18 сакавіка 2018 года.

**Сяргей Гезгала**

# Нямеччына будзе плаціць мігрантам да 3000 еўра за добраахвотнае вяртанне на радзіму

Для таго, каб пазбегнуць каштоўных дэпартацый, МУС Нямеччыны мае намер выкарыстоўваць наўпроставыя фінансавыя стымулы для заахвочвання мігрантаў, чые заявы аб прадастаўленні прытулку былі адхіленыя, да добраахвотнага ад'езду, паведамляе *Bild am Sonntag*.

Сям'я мігрантаў з дзіцём, якая пагодзіцца пакінуць тэрыторыю Нямеччыны да лютага, атрымае ад нямецкага ўрада 3000 еўра. Пра пачатак дзеяння новай праграмы рэпатрыяцыі мігрантаў заявіў міністр унутраных спраў ФРГ Томас дэ Мэз'ер на старонках *Bild am Sonntag*.

У цяперашні час у Нямеччыне пражывае 115 тыс. мігрантаў, якім нямецкія ўлады афіцыйна адмовілі ў прытулку або іншай форме абароны. У выпадку 80 тысяч з іх улады згодныя дазволіць далейшае знаходжанне ў Нямеччыне па асабістых або палітычных прычынах, а 35 тыс. павінны неадкладна пакінуць тэрыторыю Нямеччыны.

За 11 месяцаў гэтага года нямецкія ўлады дэпартавалі 19,5 тысяч чалавек. Для дэпартацыі даводзіцца пераадольваць шматлікія цяжкасці, звязаныя з дакументамі, а таксама з адмовамі краін паходжання мігрантаў супрацоўнічаць.

Умовай удзелу ў новай праграме з'яўляецца напісанне заявы аб адмове абскарджваць рашэнне аб адхіленні хадайніцтва па наданнні прытулку і аб жаданні добраахвотна вярнуцца на радзіму. Калі ж мігрант паўторна пажадае трапіць на тэрыторыю Нямеччыны і будзе ідэнтыфікаваны, яго чакае неабходнасць вярнуць атрыманую выязную дапамогу.

## Прага, Амстэрдам, Тэль-Авіў, Стамбул, Тбілісі — што выбіралі беларусы падчас распродажу «Белавія»

Падчас перадкаляднага распродажу квіткоў нацыянальнай авіякампаніі ўдалося прадаць прыкладна трацілу акцыйнага пулу — 44 869 квіткоў з 148 926 магчымых, паведамляе «Радыё Свабода».

Найболей папулярным кірункам у беларусаў па-ранейшаму застаецца Прага — туды вырашылі адправіцца па льготных квітках 2985 нашых суайчыннікаў.

У Амстэрдам, Тэль-Авіў і Стамбул прададзена 2509, 2316 і 2042 квіткі адпаведна. А вось Тбілісі гэтым разам моцна адстаў — усяго 622.

«Белавія» распрадавала квіткі па коштах ад 25 да 147 еўра ў залежнасці ад кірунку. Да тэтй сумы трэба, аднак, далічыць дадатковыя таксы і зборы, што ўплывае на павелічэнне цаны ў некаторых выпадках амаль удвая.

**svaboda.org**

# Як уладкаваная фінская сістэма адукацыі і чаму яна не запрацуе ў Беларусі

Піша Якуб Лапатка — беларус, які жыве ў Фінляндыі.

Рэформы — гэта добра. Пошукі — гэта выдатна. Тое, што міністр адукацыі ўвесь у пошуках, — гэта выдатна ўдвая і ўтрая.

Але вось бяда: міністры мяняюцца, пошукі працягваюцца, «рэформы» ідуць бясконцай чарадой, а дзеля чаго? І што такое рэформа? Змяніць пачатак заняткаў з васьмі на дзевяць гадзін раніцы? Зрабіць навучанне 12 класаў замест дзесяці, а потым адзінаццаць — замест дванаццаці? Выключыць з праграмы гісторыю Беларусі і ўвесці гісторыю Дзесяці сталінскіх удараў? Скараціць фізіку і трыганаметрыю (ну хто памятае правіла бураўчыка ці што такое сінус, калі тое нам трэба?!). Во цяслярства, слесарства, садаводства — гэта тое, што нада!

Але тады школа ператвараецца нават не ў ГПТВ (а я ў 1963 годзе скончыў ГПТВ-28 нафтавікоў у Наваполацку, дзе ў праграме быў прадмет пад назвай «эстэтыка»), а ў прымітыўную школу фабрычна-завадскога навучання. Уся гэтая вышэйпамянёная мітусня не мае ніякага дачынення да рэформаў адукацыі, ды, баюся, і да адукацыі наогул. Нямецкая — французская, тая — другая мадэль адукацыі! І вось зараз — фінская. Пытанне да ўсіх: ці можна на яліне вырасціць журавіны, на дубе — яблыкі, а на яблыні — жалуды? Нашы адукацыйныя мічурынцы-селекцыянеры імкнуцца менавіта да гэтага. Па-першае, што такое адукацыя, з чаго яна складаецца і дзеля чаго існуе. І што нам дапаможа дасягнуць фінскіх поспехаў? Паглядзім.

Структура адукацыі. У сістэму фінскай адукацыі ўваходзяць: пачатковая школа (1—6 класы), базавая школа (7—9 класы), ліцэй (яго чамусьці ў перакладзе называюць гімназіяй) (10—12) класы, шырокая сетка прафесійных вучэльняў па 2—2,5 гады, вышэйшыя школы па 3,5 — 4 гады і ўніверсітэты (4—6 гадоў). Усё, без выключэння, навучанне бясплатнае. Студэнты атрымліваюць невялікую стыпендыю і так званы студэнцкі беспрацэнтны крэдыт, які вяртаецца на працягу 20 гадоў пасля вучобы.

Дзеці да 9 класа ўключна атрымліваюць бясплатныя падручнікі, здаваць якія назад у бібліятэкі не трэба, бясплатнае харчаванне і перакус, бясплатны праезд да школы, калі вучань жыве далей за 2 км ад яе. Гэта робіцца таму, што базавае дзевяцігадовае навучанне — дзяржаўны абавязак грамадзян, як і вайсковая служба. Таму дзяржава павінна забяспечыць умовы выканання абавязку, які яна ўскладае на грамадзяніна.

І фінская дзяржава забяспечвае такія ўмовы. Нікому і ў галаву не прыйдзе, каб салдат плаціў за абмундзіроўку, за зброю і харчаванне. Так і з абавязковай адукацыяй. Дарэчы, адукацыйны бюджэт Фінляндыі значна большы, чым абаронны.

Ліцэісты-гімназісты ўжо атрымліваюць невялікую стыпендыю. Цэны для іх у ліцэйскіх сталовых — чыста сімвалічныя. Старыя падручнікі скупляе адмысловая кнігарня і прадае па невялікай цане. Іспытаў на працягу ўсіх гадоў навучання не бывае. Паспяховасць лічыцца па кантрольных і тэстах на працягу навучальнага года. Сістэма адзнак — дзесяцібальная.

У шостым класе пачатковай школы вучні атрымліваюць праспекты з указаннем базавых школ горада або акругі. Яны выбіраюць сабе школу, але набор праводзіцца па суме балаў у пасведчанні за шосты клас, асабліва ў школы з «ухіламі» або прэстыжныя школы. Калі «сямёрачнік» нікуды не праходзіць, дык ідзе ў сваю тэрытарыяльную базавую школу. Тое ж і пры паступленні ў ліцэй.

Гэта ўжо не абавязковы этап адукацыі, а калі нізкі бал, дык ідзі давучвайся ў прафтэх, атрымлівай добрыя балы, тады і атрымаеш, як і ліцэіст, белую шапачку і правы паступаць у вышэйшыя школы ды ўніверсітэты. Твая паспяховасць — твая асабістая справа. Хочаш добрую адукацыю і добры заробак, дык вучыся. Настаўнік у фінскіх школах пазбаўлены ад абавязку гадзінамі сядзець пасля ўрокаў і пісаць безліч папер. Ён атрымлівае грошы за праведзеныя ўрокі. І па названых прычынах ніхто з яго не патрабуе татальнай паспяховасці.

Вышэйшая адукацыя ў цане. Настаўнік атрымлівае некалькі тысяч еўра, бо мае ўніверсітэцкую адукацыю. Або так: медсястра пасля двухгадовай медыцынскай вучэльні атрымлівае недзе каля 2800 еўра, а пасля вышэйшай школы тая ж сястрычка будзе атрымліваць ледзь не ўдвая болей. А доктар з універсітэтам — амаль утрая.

Мы можам забяспечыць такія ўмовы вучням і студэнтам? Можна вучыцца дзесяць-адзінаццаць-дванаццаць гадоў, можна называць школу гімназіяй, ліцэем, акадэміяй — толку не будзе. Можна кідацца ад дзесяці балаў да пяці і зноў назад, і што? Наступіць карэнная змена ў сістэме адукацыі?

Справа ў тым, што сутнасць адукацыі не фарміруецца высілкамі міністраў ці прэзідэнтаў. Яна вызначаецца ладам жыцця і менталітэтам нацыі. У Фінляндыі цалкам і поўнасцю адсутнічае саслоўная пыха і фанабэрыя. Можна ў прадуктовай краме сустрэць прэм'ера, а на калядным свяце беднякоў — прэзідэнта. Ні для таго, ні для другога горад не перакрываецца і не зачышчаецца. Ціха прыйшоў, ціха ад'ехаў. Дзеці самых багатых людзей ездзяць у школы на веласіпедах або грамадскім транспартам. І кожнае лета, пачынаючы з 15 гадоў, працуюць. Хто ў азеляненні рве пустазелле сярод гарадскіх кустоў, хто разносіць рэкламу. Ніхто з дзяцей не падколе аднакласніка, што той мае тэлефон не апошняй дарагой маркі. І самі фінскія бізнэсмены ездзяць на шыкоўных «мэрсах» і «ройсах» толькі ў прадстаўнічых выпадках. Штодзённы транспарт — СААБ, «Опель», «Фіят».

Звычайна ў «рэфарматараў» выклікае жах, што дзеці звяртаюцца да настаўніка на «ты». Дык гэта агульнапрынятыя фінскі моўны этыкет. А ў нас прынята на «вы», і мяняць нічога не трэба. Галоўнае ж у фінскай сістэме адукацыі — роўнасць вучня і настаўніка. Вучань — не аб'ект выхавання, а суб'ект, удзельнік выхаваўчага працэсу. Ён можа аспрэчыць адзнаку, і настаўнік можа пагадзіцца, калі довады вучня будуць слушнымі і абгрунтаванымі.

Адзнакі ў фінскіх школах не ставяць да трэцяга класа ўключна. Але ўсе тры гады вучань павінен сам сабе па дзесяцібальнай сістэме паставіць адзнакі па паводзінах, стараннасці, адносінах з аднакласнікамі — усяго па адзінаццаці пунктах. А потым параўнаць з адзнакамі, якія яму паставілі настаўнік і некалькі найбліжэйшых сяброў.

Так неўпрыкмет, у выглядзе гульні, пачынаецца выхаванне грамадзяніна, адказнага за свае ўчынкі. Ніякіх палітінфармацый і патрыятычных урокаў. Усё падаецца ў працэсе вывучэння прадметаў у школе. І, як ні дзіўна, фіны ведаюць словы гімна і спяваюць яго на ўрачыстых мерапрыемствах.

Пры навучанні не патрабуюць зазубрывання, а мыслення і працы. Напрыклад, па геаграфіі вучням даюць заданні на месяц, скажам, прайсці ад Вогненнай Зямлі да Сіэтла. Па дарозе трэба апісаць народы, іх гісторыю, эканоміку, мову і г.д. І зрабіць даклад перад класам. Або апісаць, скажам, вавёрку. Арэал жыцця, харчаванне, размнажэнне і г.д. І вучань са здзіўленнем даведваецца, што гэты весёлы звярок, якім поўняцца гарадскія лесапаркі, абсалютна самастойная і вартая павагі істота.

У аснову навучання і выхавання пакладзена павага да чалавека. Не бывае ў школах публічнай «прапрацоўкі» вучняў і бацькоў. Бацькоўскія сходы бываюць, а «прапрацоўкі» не бывае. Толькі ў асабістых размовах настаўнікаў і бацькоў. І настаўніка ніхто не выструньвае і не патрабуе «дабіцца поспехаў у паказніках». Паўтаруся: сутнасць адукацыі фарміруецца не прэзідэнтам, не міністрам, а навакольным асяроддзем, ладам жыцця і адносінамі паміж людзьмі. І ўзаемаадносінамі паміж дзяржавай і грамадзянамі. Гэта значыць, фінская дзяржава ведае, што яна хоча ад адукацыі, якія ў яе мэты і матэрыяльная база. Фінская школа мае добрую матэрыяльную базу, а настаўнікі — людзі паважаныя і добра забяспечаныя.

А мітусня вакол беларускай адукацыі стварае ўражанне, што дзяржава не ведае, каго яна хоча выхаваць і што для гэтага зрабіць. А як вырасціць свабоднага грамадзяніна ў агульнапрымусовым асяроддзі? Добра навучыць школьнікаў кляпаць-пілаваць, а будучых аграномаў — касіць ды хадзіць за плугам? У фінскай школе таксама ёсць урокі працы, дзеці вучацца пілаваць, габляваць і кухарыць. Але галоўны ўпор робіцца на навучанне дзіцяці працаваць з камп'ютарам, а не з малатком, сабраць складаную электронную схему — карацей, гэта далёкі прыцэл на будучыню. А на што нацэльвацца беларуская адукацыя? Гэта і ёсць найважнейшае пытанне рэформы. Пакуль не будзе адказу на яго, нічога не зменіцца.

**Якуб Лапатка**

# «Таварыш Карпенка, а ці вядома вам, з чаго любімыя вамі фіны пачыналі?» Адказ астранома Малышчыца міністру адукацыі сабраў сотні водгукаў

66 рэпостаў у адным фэйсбуку, сотні лайкаў і водгукаў — людзі масава абмяркоўваюць допіс выкладчыка астраноміі і папулярнага фатографа Віктара Малышчыца пра чарговыя рэформы ў адукацыі. Прапануем яго і вашай увазе.

Прачытаў, што наш міністр адукацыі Карпенка «фанацее ад фінскай і эстонскай мадэлі». Ага, праходзілі мы ўжо гэта. У нас тут многія фанацеюць ад розных заходніх мадэляў. Толькі неяк па-свойму фанацеюць. Напрыклад, з сістэмы ЖКГ нам трэба пераняць толькі 100% аплату паслуг, з медыцынскай сферы — толькі платную медыцыну, а з «фінскай мадэлі» — толькі ліквідацыю гімназій.

Таварыш Карпенка, а ці вядома вам, з чаго горача любімыя вамі фіны пачыналі? З гіганцкіх укладанняў у абсталяванне школ, з рэзкага павышэння заробкаў настаўнікаў, з перападрыхтоўкі ўжо працуючага персаналу.

Цяпер у Фінляндыі сапраўды няма сэнсу шукаць лепшае месца для дзіцяці — у любой школе краіны можна атрымаць якасную адукацыю ад сапраўдных прафесіяналаў гэтай справы.

Перад тым, як праводзіць сваю геніяльную рэформу, вы, напэўна, сур'ёзна ўкладзіся ў аснашчэнне школ? Не, у многіх з іх доследы па фізіцы і хіміі паказваюць з Ютуба, бо няма ні абсталявання, ні рэактываў. А рамонты і закупка асноўных рэчаў увогуле адбываюцца за грошы бацькоў.

Можа, вы неяк паспелі павысіць кваліфікацыю настаўнікаў, таму цяпер у кожнай школе будзе выкладанне на найвышэйшым узроўні? Ды не. Я сам настаўнік, і па маім прадмеце (астраномія) мне хопіць пальцаў рук, каб пералічыць настаўнікаў Мінска, якія ведаюць свой прадмет хоць крыху глыбей за школьную праграму. З іншымі, больш папулярнымі, прадметамі сітуацыя лепшая, але ненашмат. Ах, дык вы, напэўна, паднялі заробкі разоў у 5, і ў найбліжэйшы час таленавітыя настаўнікі самі набягуць, запоўняць усе школы да апошняй? Канешне, не —і цяпер малады спецыяліст без рэгалій, які працуе на стаўку, атрымлівае рублёў 300—400. З такім заробкам вы не набераце настаўнікаў-прафесіяналаў на ўсе школы Беларусі.



Міністр адукацыі Ігар Карпенка — ураджэнец Сібіры, былы лідар Кампартыі Беларусі. Фота Sputnik.by.

Добра, можа, вы вырашылі пачаць хаця б з малога?

Адмянілі прымусовую падпіску на дзяржаўную прэсу? Перасталі адпраўляць дзяцей з урокаў на ўборку ўраджаю?

Перасталі навешваць на настаўнікаў не іхнія абавязкі? Ага, скажаце вы, хрэн вам, а не адмену гэтай бздуры.

Гэта ў нас такая фінская мадэль. Не забудзьцеся толькі падпісаць школу на «Коммунист Беларусі» і іншыя саўбелкі.

# 15-гадовы святкаваў дзень нараджэння з алкаголем. Справа скончылася зламаным хрыбтом госця

Журналіст Зміцер Галко прысутнічаў на святкаванні 15-годдзя свайго сына Яна Хрысціяна. Вечар яны скончылі ў аддзяленні міліцыі, а адзін з сяброў — у рэанімацыі. Вось што расказала пра падзеі мінская міліцыя, а што — сам Галко.

«У суботу 25 лістапада ўвечары падчас патрулявання ўчастковы міліцыянт заўважыў, як на балконе другога паверха стаялі дзеці, якія лаяліся матам і візуальна знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення, — расказаў афіцыйны прадстаўнік ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі. — З кватэры даносілася гучная музыка.

Участковы патэлефанаваў супрацоўнікам інспекцыі па справах непаўналетніх. Разам яны накіраваліся ў кватэру. Дзверы адамкнуў мужчына ў моцным стане алкагольнага ап'янення, за ім стаялі дзеці. Мужчына пачаў пагражаць супрацоўнікам праваахоўных органаў, выказваца нецэнзурнай лаянкай, хапаць участковага за форму, — сцвярджае Ластоўскі. — У кожным пакоі [кватэра двухпакаёвая, на дні нараджэння прысутнічала 17 чалавек — **НН**] знаходзіліся непаўналетнія, там жа стаялі адкаркаваныя спіртныя напоі: гарэлка, віскі, віно, піва, шампанскае».

Па інфармацыі міліцыі, мужчына схапіў участковага за руку, спрабаваў яму перашкодзіць. Тэлефон інспектара ўпаў і разбіўся. Інспектар таксама сцвярджае, што ўжо ў калідоры сын мужчыны падбег да міліцыянта і двойчы ўдарыў кулаком па твары, затым удары нанёс яго бацька.

«Цяпер у рамках крымінальна-працэсуальнага кодэкса праводзіцца праверка», — кажа Ластоўскі.

Зміцер Галко распавёў «Нашай Ніве» сваю версію падзей.

Па яго словах, на 15-ы дзень народзінаў яго сына Яна сабралася 17 чалавек. Сам Зміцер проста прысутнічаў там, «на ўсякі выпадак». Мамы Яна, былой жонкі Змітра Галко, у той вечар дома не было: яна паехала да сваёй маці.

«У адным пакоі быў Ян з сябрамі, я сядзеў у іншым, за камп'ютарам. Да мяне на нейкі час заехаў сябар, мы выпілі трохі шампанскага. Пасля сябар з'ехаў. Каб падлеткі штосьці пілі — я не бачыў. Пасля ўжо, пазней, я заўважыў у іх на стале стаяла віно — але гэта ўсё», — расказвае Галко-старэйшы.

Пасля хтосьці пазваніў у дзверы. Зміцер адкрыў, на ганку стаялі мужчына ў міліцэйскай форме, а з ім — мужчына і жанчына ў цывільным.

«Распавялі, што паступіў да іх выклік, скаргі на шум... Я паабяцаў музыку выключыць. Яны спыталі, а што ўвогуле адбываецца ў кватэры, я патлумачыў, што сын святкуе дзень народзінаў, а я бацька, — кажа Зміцер Галко. — Тады ў мяне папрасілі дакументы».

Галко сцвярджае, што госці «пачалі хадзіць у ботах па чыстай кватэры, заглядваць у пакоі. Я папрасіў іх выйсці: злачынства аніякага не адбываецца, што ім там рабіць. Я не дазваляў уваходзіць. Міліцыянт сказаў: бачу, што непаўналетнія распіваюць алкаголь».

Запрасіўшы міліцыянта пакінуць памяшканне, сцвярджае Галко, ён узяў яго за руку.

«Міліцыянт пачаў лямантаваць, што я на яго напаў. Удвух разам з хлопцам у цывільным яны мяне пачалі круціць. Пачаўся вэрхал, выскачыў мой сын з крыкам: «Не чапайце бацьку!». Прайшло некалькі хвілін — і ў кватэру ўварвалася група захопу, у бронекамізэльках, усё як трэба, больш за 5 чалавек іх было дакладна. Крычалі: «Усім стаяць, рукі на сцяну!».

Затым мяне паклалі тварам у падлогу, накінулі кайданкі. Адзелі кайданкі і на майго сына», — расказвае Зміцер Галко.

Па словах Галко, падлеткі спужаліся і пачалі разбягацца. Некаторыя выскачылі ў акно — а кватэра была на другім паверсе.

Агулам міліцыя затрымала самога Галко, яго сына і яшчэ 4—5 падлеткаў.

Некаторыя з тых, хто скакаў у акно, атрымалі траўмы. У аднаго — зламаная нага, у другога — хрыбет. Гэты хлопец у бальніцы, некалькі дзён ён правёў у рэанімацыі.

Змітра Галко з сынам даставілі ў Савецкі РУУС.

«Прасядзеў я за кратамі да раніцы 27 лістапада, пасля ў судзе Савецкага раёна прызналі мяне вінаватым, што я нібыта размахваў рукамі і лаяўся матам на вуліцы ля дома. Суд даў мне штрафу дзве базавыя — і мяне адпусцілі».

Сына адпусцілі раней, ноччу з 25 на 26 лістапада, каля 5-й раніцы.

Цяпер, сцвярджае Зміцер Галко, яго сына вінавацяць у тым, што ён ударыў міліцыянта.

**Улад Швядовіч**



### Ад чаго 29-гадовы намеснік дэкана геафака БДУ памёр на працоўным месцы

Намеснік дэкана па вучэбнай і выхаваўчай рабоце геафака БДУ, дацэнт кафедры глебазнаўства Сяргей Пракаповіч памёр 23 лістапада.

Паводле папярэдняй інфармацыі, у Пракаповіча адарваўся тромб. Выкладчык памёр на сваім працоўным месцы ў кабінеце. Дакладную прычыну смерці пакажа экспертыза.

Нарадзіўся Сяргей Пракаповіч у 1988 годзе ў Оршы. Скончыў геафак БДУ, паступіў у магістратуру, у 2017 годзе абараніў кандыдацкую. Быў узнагароджаны медалём і званнем «Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь».

Для аказання дапамогі сям'і нябожчыка ажыццяўляецца збор сродкаў, якія можна пералічыць на картку Беларусбанка пад нумарам 9112-0001-6711-4400.

**УШ**

## Чалавек, які згарэў на МКАД, быў вядомым маркетолагам

Відэа аварыі на МКАД 30 лістапада абышло інтэрнэт: у *Dacia Logan*, якая спынілася пасля дробнай аварыі, урэзаўся МАЗ — і машыны загарэліся.

Кіроўцы іншых машын выцягнулі шафёра, а пасажыра — не паспелі, бо яго заціснула ў салоне. Спалахнула моцна, у людзей з машын, што спыніліся, паканчаліся агнягаснікі. Мужчына фактычна згарэў жыўцом у людзей на вачах.

Стала вядома, што гэта быў Дзмітры Арэхаў. 39-гадовы маркетолаг працаваў у кампаніях *Altoros Development* і «Атлант-тэлекам». За плячыма ў яго дзве адукацыі: інжынерная з Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта і філасофская з ЕГУ.

Сябры называюць яго «яскравым профі беларускага IT».

**Сяргей Гезгала**



## У Мінску каля ГЦ «Замак» на пераходзе грузавік пратараніў пешаходаў

2 снежня каля 16.30 на пешаходным пераходзе каля гандлёвага цэнтра «Замак» у Мінску грузавы аўтамабіль пратараніў пешаходаў. Загінула 11-гадовая дзяўчынка, яшчэ некалькі чалавек атрымалі траўмы.

Паводле папярэдняй інфармацыі, грузавы аўтамабіль пратараніў пешаходаў, калі яны пераходзілі дарогу на зялёны сігнал святлафора.

«Грузавы аўтамабіль ЗІЛ рухаўся з боку вуліцы Сапёраў і ўчыніў наезд на пешаходаў, якія пераходзілі дарогу па рэгуляваным пешаходным пераходзе. Па словах кіроўцы, пры пад'ездзе да пешаходнага пераходу ён выявіў, што ў яго сапсаваліся тармазы. Па папярэдніх дадзеных, кіроўца ЗІЛа быў цвярозы. 11-гадовая дзяўчынка загінула ад атрыманых траўмаў, чацвёра пешаходаў атрымалі раненні, у тым ліку — 7-гадовае дзіця», — распавёў афіцыйны прадстаўнік УДАІ МУС Беларусі Станіслаў Салавей.



## «Беларуску пахаваў орфі-муж». А хто такі орфі-муж?

40-гадовая беларуска Вольга Чарнецкая памерла 18 лістапада ў Егіпце. У яе не знайшлося сваякоў, гатовых аплаціць перавоз цела на бацькаўшчыну.

Таму яе пахавалі тамсама, у Хургадзе.

Як паведамляецца, на пахаванні прысутнічалі яе сябар Махамед, орфі-муж Ахмед, а таксама егіпецкая сяброўка.

Махамед і Ахмед і аплацілі кошт пахавання — 300 даляраў — напалам.

Але ж хто такі орфі-муж? Гэта асаблівасць Егіпта — магчымасць заключаць часовыя орфі-шлюбы. У іншых ісламскіх краінах такога няма, расказала «Нашай Ніве» беларуска Раяна Вольга Чарных, якая жыве ў Каіры.

Слова «орфі» па-арабску значыць «звычай, традыцыя». Такі шлюб нідзе



не рэгіструецца, але дазваляе мужчыну і жанчыне жыць разам і пры гэтым не грашыць па нормах рэлігіі.

Існуе два тыпы бланкаў для афармлення орфі-кантракта. Першы — спрошчаны, яго можна купіць у любой кнігарні ў Егіпце — каштуе ён капейкі — і запоўніць самім. Ёсць і паўнавартасны орфі, які заключаюць у прысутнасці двух сведкаў (калі сведкі — жанчыны, то чатыры) і адваката, які павінен паставіць свой подпіс у дакуменце. Дадзеная працэдура каштуе невялікую суму.

У дакументы заносяць дадзеныя пашпарта, прозвішча, імя бацькоў, а таксама памер вясельнага падарунка. Праўда, апошняе неабавязкова.

Орфі-шлюб можа быць скасаваны ў любы момант і не прадугледжвае ніякіх матэрыяльных абавязкаў. Мужчына мае права адначасова знаходзіцца ў некалькіх орфі-шлюбах, хоць гэта і не вітаецца грамадствам. «Не ўсюды пары ў орфі-шлюбе здадуць кватэру ці дазволяць засяліцца ў адзін нумар у гатэлі», — кажа Чарных.

Замежніцы ў Егіпце нярэдка заключаюць такія орфі-дамовы. «Гэта дае падставу для атрымання паўгадавой візы для нетурыстычных мэтаў (так званая «віза маладой»), патрэбнай для афіцыйнага шлюбу», — расказвае беларуска.

Нават завераны адвакатам орфі-кантракт не прызнаецца ў якасці шлюбу ў іншых дзяржавах, у тым ліку і Беларусі.

Беларуска Вольга Чарнецкая гадавала дваіх дзяцей, якіх усынавіла яшчэ ў Беларусі, калі была замужам у першы раз. Яе былы муж цяпер спрабуе перавезці малых на радзіму. Ні былы муж, ні брат на пахаванне не лёталі.

# Беларускія брукаванкі. Каралеўскімі дарогамі гістарычнай Наваградчыны


Стары Лідскі тракт за Навагрудкам.

Апошняя наша ў гэтым сезоне вандроўка па брукаванках супала з першым зазімкам. У Мінску мёў мокры снег. Начная завіруха прымушала задумацца: ці варта рызыкаваць на новай чужой машыне за 65 тысяч рублёў?

Але варта было сесці ў *Volkswagen Tiguan*, які нам дастаўся для гэтай паездкі, як сумненні зніклі. Шырачэзны салон, падагрэў лабавіка і люстэрак задняга віду, ніякай паруснасці, ніякіх заносаў — машына цвёрда ідзе па слізкаватай трасе.

Мы едзем у бок Нясвіжа і Навагрудка, у сэрца Вялікага Княства Літоўскага, на радзіму паэтаў, музыкаў, найбагацейшых магнатаў мінулага і топавых чыноўнікаў сучаснасці.

**Што гэта за праект**

З 2011 года на заклік фатографа «НН» Сяргея Гудзіліна чытачы з усёй краіны дасылалі нам інфармацыю пра свае брукаванкі. Складалася база. Але ён мог бы і застацца ў катэгорыі прыгожых ідэй, калі б не *Volkswagen* у Беларусі.

У некалькіх публікацыях мы пакажам вам гэтыя старыя дарогі і месцы, якія маглі б стаць выдатнымі турыстычнымі маршрутамі.

Сыходзім з Брэсцкай трасы пад Стоўбцамі, праязджаем Новы Свержань, строгая каталіцкая архітэктура якога не так даўно была «асвоеная» бліскучымі праваслаўнымі макавінамі. Мястэчка прачынаецца. Паркуецца ля школы жоўты аўтобус (яны сталі ўжо асаблівасцю ландшафту па меры згортвання вясковых школ), едуць на работу роварамі вясёлыя леснікі з бензапілой, ідзе на ферму маладая даярка, слухае музыку на смартфоне праз навушнікі.

Першую брукаванку спатыкаем у вёсцы Ахрэмавічы. Тут яна стала ахвярай водаправоду, што нядаўна прайшоў па вуліцы. Вёска дачная, пустая ў ранак будняга дня.

Мы ў наваколлях Нясвіжа, на землях Радзівілаў, якіх у Рэчы Паспалітай звалі некаранаванымі каралямі. Тут мала лесу: гэтыя ўрадлівыя глебы здаўна абрабляліся. Ураджаямі з іх аплачваліся шчодрыя фундушы і ахвяраванні, прыгажосць твораў мастацтва, палацаў і храмаў, слава вайсковых перамог — але таксама інтрыгі, дзікія гулянкі і саляныя дарогі для язды на мядзведзях.

**Радзівілы**

Магнацкі род, найбуйнейшыя землеўласнікі ў Беларусі ў часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Займалі найвышэйшыя дзяржаўныя пасады. Сталіцай беларускай галіны роду быў Нясвіж.


Тыповы гарадзейскі пейзаж увосень — з гарой цукровых буракоў.

Нечаканая такая паралель: Пане Каханку ездзіў на мядзведзях па саляной дарозе, а мы на нашым мядзведзі-«Тыгуане» едзем па цукровай.

Ягамосць цукровы бурак замяніў Радзівіла і пануе ва ўсім наваколлі. Бурты на палях, самазвалы, поўныя карняплодаў, і дзе б мы ні былі — згубленыя цукровікі на ўзбочынах калдобістых дарог.




**Volkswagen Tiguan Highline TSI DSG**

- рухавік бензінавы 1,4
- Ммагутнасць 110/150 Квт / к.с.
- КПП 6 AUT DSG
- электраскладаныя вонкавыя люстэркі задняга віду
- паркоўчны асістэнт Park Assist
- камера з панарамным аглядам Area View і камера задняга віду Rear View
- сядзенне кіроўцы ergoActive з рэгуляваннем у 12 кірунках і функцыяй масажу
- святлодыёдныя LED фары
- святлоаўтаматычны карэктар фар
- святлодыёдныя LED заднія ліхтары ў адмысловым 3D дызайне
- ESP — электронная супрацьзаносная сістэма
- электрамеханічны стаяначны тормаз з асістэнтам камфортнага старту пры руху на ўздыме Auto-Hold
- сістэма маніторынгу пешаходаў і актыўны капот
- асістэнт кантролю дыстанцыі спераду Front Assist
- дыскавыя тармазы спераду і ззаду
- падушкі бяспекі
- мультыфункцыянальнае скуранное рулявое кола з абаграваннем і кнопкамі кіравання бартавым камп'ютарам і аўдыясістэмай
- 3-зонны аўтаматычны клімат-кантроль Air Care Climatronic з антыалергенным фільтрам і магчымасцю кіравання ззаду
- круіз-кантроль
- датчык дажджу
- інтэрактыўная прыборная панэль Active Info Display
- сістэма кантролю ціску ў шынах
- разетка 230 V у багажным аддзяленні.

**Пане Каханку**

Мянушка Караля Станіслава Радзівіла (1734—1790), ваяводы віленскага, аднаго з найбагацейшых магнатаў Еўропы свайго часу. Выступаў супраць падзелаў Рэчы Паспалітай і за гэта на доўгі час быў выгнаны з краіны расійскай царыцай Кацярынай ІІ. Вядомы таксама сваімі жартамі і дзівацтвамі. Яго вобраз стаў фальклорным.

Цэнтр усёй гэтай слодычы — у Гарадзеі. Тут проста на вуліцы пахне салодкай ватай, як з аўтамата ў парку Горкага.

Яшчэ пазітыўней выглядае Сноў, цэнтр багатага агракамбіната і радзіма Міхаіла Мясніковіча. Святлафоры, кавярні, нават — на 2500 чалавек — ёсць нармальных памераў басейн!

Брукаванкі ў гэтай мясцовасці рэдкія: багатыя гаспадаркі закаталі іх у асфальт. Таму мы кіруемся на поўнач, дзе, падказваюць нам чытачы, брук яшчэ служыць людзям.

**Гарадзейскі цукровы камбінат**

Працуе з 1959. Апроч асноўнай прадукцыі, вырабляе павідлы, канфіцюры, кармы для скаціны, угнаенне. Горадаўтваральнае прадпрыемства: тут робіць ад 70 да 90% працаздольнага насельніцтва Гарадзеі.

## Валэра клаў асфальт

Праязджаем Чэрніхава, шырака раскіданае па ўзгорках, знаходзім брукаванку, якая выступае з-пад пазнейшых жвіравых наслаенняў.

У Чэрніхаве жылых хат мала. Сярод драўляных дамкоў — даваенная цагляная камяніца, пастаўленая багатым селянінам, у ёй памалу завальваецца шчыт.

Прыгожая брукаванка ў Савічах. Адкрываем для сябе магчымасць разглядаць яе проста не выходзячы з салона. Камера панарамнага агляду *Area View* дазваляе бачыць усе драбніцы з любога боку аўто.

Тут мы сустракаем першую характэрную для Навагрудчыны індычыную чараду. Бабуля ледзь ходзіць сама, але індыкоў трымае.

Хто рабіў брук — за даўнасцю людзі не помняць. Затое добра помняць, хто клаў асфальт у наваколлі: армянская брыгада на чале з брыгадзірам «Валэрам». Пасля землятрусу 1988-га армяне многа дзе так зараблялі ў Беларусі. «Каток у іх быў самаробны, дык пакладуць асфальт, а потым конь на яго стане — і капытоў адарваць не можа».

Той армянскі асфальт паспаўзаў з дарогі, агаліўшы брукаванку зноў.

І Радзівілаў тут помняць. Паказваючы на якія-небудзь гаспадарчыя руіны, мясцовы чалавек скажа са значнасцю: яшчэ радзівілаўскія.



Савічы.



Рэшткі панскага маёнтка ў Задзвеі.

## Ішкалдзь

Перад Паланечкай паварочваем на Ішкалдзь. Заязджаем у яе з непараднага, нежылога боку. Тут завальваюцца памалу рэліктавыя хаты пад такімі ж клёнамі.

Працяг на старонцы 14.










**Ішкалдзь**

Вёска, вядомая з XV ст. Славутая адным з найстарэйшых храмаў краіны. Гатычны касцёл быў збудаваны ў 1472 уладальнікам Ішкалдзі Мікалаем Неміровічам.

# Беларускія брукаванкі. Каралеўскімі дарогамі гістарычнай Наваградчыны

Працяг са старонкі 13.

Такое ўражанне, што яны помняць апошнія набегі крымчакоў, якія даходзілі сюды ў пачатку XVI стагоддзя. Старой вуліцай ляжыць брук. Цікавае нам расказалі пра яго: у 1980-я, калі тут збіраліся класці асфальт, людзі не далі гэтага зрабіць, адстаялі брукаванку.

Тых людзей няма ўжо — амаль уся вуліца «дачная». Павярнуўшы пад горку, узʼязджаем да ішкалдскага касцёла Святой Тройцы, аднаго з найстарэйшых храмаў у краіне, збудаванага — страх падумаць — яшчэ за вялікім князем Казімірам, сынам Ягайлы. Ходзіш па зялёненькай пастрыжанай тэрыторыі вакол і проста нагамі чуеш, як гудзе пад табой зямля ад тэрабайтаў гісторыі.

Цікава яшчэ, што Ішкалдзь напалову падзеленая мяжой абласцей: брукаванка на Берасцейшчыне, а касцёл ужо на Міншчыне.

## Славутыя землякі

Наступная наша брукаванка — аж пад Мірам. Па дарозе туды мы праязджаем Макашы, радзіму паэта Уладзіміра Жылкі. Хата, у якой ён нарадзіўся, стаіць на ўскрайку, пры рацэ Ушы. Нягледзячы на мемарыяльную табліцу, хата не музейная. Чалавек выкупіў яе і жыве, сказалі нам вяскоўцы. Побач з шыльдай тырчыць газавы лічыльнік.

На гэтым славутыя землякі не сканчаюцца.

За вёскай заўважаем аднаўлены млын над ставом і дамкі-бунгала на ўзгорку, да якіх вядзе дарожка са свежай пліткі.



Турэц.

**Уладзімір Жылка**

(1900—1933) паэт, перакладчык. Сябра літаратурных згуртаванняў «Маладняк» і «Узвышша». У 1930 арыштаваны па сфабрыкаванай НКВД справе «Саюза вызвалення Беларусі», памёр у высылцы ад сухотаў. Мала хто ведае: гэта Жылка прыдумаў для Вільні азначэнне «крывіцкая Мекка», якое прыжылося.

Каля дамкоў гумарныя дзядзькі з мясцовага сельсавета і лясгаса трохі здымаюць стрэс пасля візіту міністра лясной гаспадаркі. У іх аказваецца ключ ад млына, і мы можам яго агледзець. Тут меўся быць музей.

Адпачынкова-турыстычны комплекс быў задуманы тады, калі кіраўніком Мінскай вобласці стаў Леанід Крупец, родам з Макашоў. Але потым зямлю перавялі паслом у Бразілію, і работа замарудзілася.

## Танкі на бруку

Па дарозе да Міра робім разведку: збочваем у вёску Сімакова. *Volkswagen Tiguan* спакойна пераадольвае яміны і няроўнасці, фатальныя для многіх яго калег.

Мы за час нашых падарожжаў бачылі брук, разбіты трактарамі, лесавозамі, экскаватарамі, самазваламі, але вось па гэтым прайшлі танкі.

Сурʼёзна. «Гадоў дваццаць таму былі вучэнні, — расказваюць нам кабеты на лавачцы. — Танкам указальнік паставілі, каб яны праз поле ехалі. А дзеці той указальнік павярнулі на вёску. Мы прачынаемся — што робіцца: грукат стаіць. Мы думалі, Амерыка напала!»

## Мір

Мір у будні нешматлюдны, хоць пару турыстычных аўтобусаў стаіць. Перад замкам фатаграфуюцца кітайцы. Прыходзім у дзяржаўную рэстарацыю, але там абедае турыстычная група, а афіцыянт адзін і не можа разарвацца. Ідзём у прыватную кавярню ў будынку XVI стагоддзя. Цэны блізкія да мінскіх. «Выжываем за кошт расійскіх канікулаў», — кажа малады гаспадар. Ён утварыў сімбіёз з турагенцтвам, якім кіруе яго сяброўка: агенцтва арганізуе аўтобусныя туры з Расіі, а кавярня — корміць.

**Мірскі замак**

Шэдэўр беларускай архітэктуры, уваходзіць у спіс помнікаў сусветнай спадчыны ЮНЭСКА. Пабудаваны ў першай палове XVI ст. маршалкам ВКЛ Юрыем Ільлінічам. Гісторыкам не дае спакою пытанне: навошта? Прыватныя замкі ў ВКЛ тады яшчэ не будавалі і найбагацейшыя магнаты. Ёсць версія, што Ільлініч паставіў замак, каб самасцвердзіцца: ён судзіўся з канкурэнтамі за валоданне Мірам 27 гадоў. Калі род Ільлінічаў выгас, замак дастаўся іх сваякам, Радзівілам.

«Замак — ён тут адзін, няма чаго болей глядзець. Людзі заязджаюць падчас агляднаых тураў. Хоць вось зрабілі пяць дзён бязвізу для замежнікаў — трохі лепей: кітайцы зʼявіліся, палякі. Кажуць, скора трыццаць дзён зробяць, гэта яшчэ лепей для нас будзе».

Вялікая частка сілаў малога рэгіянальнага бізнэсу ідзе на баданне з мясцовай уладай. «Хацеў выкупіць будынак бровара ў Карэлічах — не дазволілі, — расказвае рэстаратар. — Ды што бровар, мапы немагчыма ўзяць для інфацэнтра, каб турыстам раздаваць».

## Тут была Карэя

У Міры брукаванкі ёсць, але бутафорскія, сапраўдную знаходзім побач, у Вялікім Сяле.

Некаторыя гаспадары тут пры Польшчы забрукавалі нават свае двары. У адным з такіх стаіць старая глінабітная кузня.

Глінабітных будынкаў у Беларусі засталося мала, можна па пальцах пералічыць.




Макашы: хата паэта Уладзіміра Жылкі і аднаўлены млын.



На гэтай тэрыторыі пануе лён. Трактары, гружаныя цяжкімі цюкамі, разбіваюць велікасельскую брукаванку.

«Як я малы быў, тут калгаснае гумно стаяла, дык жанчыны ўсю зіму трапалі лён — білі яго трапалкамі. Ухутаныя былі па самыя вочы, ад пылу нічога не бачылі... А заробак плацілі ў калгасе раз на год! Атрымаеш пяць рублёў — радуешся. А некаму рахункавод вылічыць, што сена браў, тое браў, тое браў — і ты яшчэ калгасу вінен. За ўсё быў падатак: за кусты, за дрэвы, што ў двары растуць. Заколеш кабана — у хаце разбіраеш, хаваешся, бо шчэць трэба здаць дзяржаве, скуру трэба здаць, косткі здаць — хвіга застанецца. Во было жыццё — Карэя Паўночная», — прарывае немаладога дзядзьку ў форменнай жэсаўскай куртцы, сустрэтага на бруку.

Ён едзе з позніх грыбоў, на рулі яго ровара дзве поўныя торбы з «ляпёхамі» (на вока — штосьці ўмоўна ядомае з сямейства *Tricholomataceae*).



Радагошча. Каралі дарогі

## Перадайце Макею

Узгорыстую трасу ад Міра да Карэліч можна назваць адной з найпрыгажэйшых у краіне.

Мы з лёгкім шкадаваннем зварочваем з яе на Беразавец з велічнымі руінамі «грохнутай» у 1960-я царквы.

Сустрэтыя выпівохі з двухручнай пілой чытаюць нам кароткую краязнаўчую лекцыю пра «замак канца XVI стагоддзя», да якога вядзе брукаванка. Замчышча, на якім археолагі нядаўна адкрылі «замак пана Кміты», сапраўды тут паблізу. Але бабуля ў суседніх Крынках расчароўвае: ніякага бруку тут у ваколіцы няма — ні ў Беразаўцы, ні ў Крынках, ні ў Некрашэвічах. Яна наводзіць чысціню каля сваёй сялібы. А дазнаўшыся, што мы журналісты, просіць перадаць міністру замежных спраў Уладзіміру Макею, які з Некрашэвіч родам, каб памог спарадкаваць могілкі ў Крынках, а то заараслі. Так што вастрыце сякерку, Уладзімір Уладзіміравіч, няма чаго ў Мінску сядзець.

**Каціныя лбы**

Так даўней у Беларусі называлі каменны брук.

## Варонча і Равіны

Брук мы адшукалі аж у Варончы — мястэчку з касцёлам, у якім хрысцілі Яна Чачота, і старадаўнім панскім броварам, што пaціху пераарыентоўваецца на выпуск шклоачышчальнікаў. Каля таго бровара, на ўскраінных вуліцах, і пазаставалася брукаванка.

Затое ў Равінах яна захавалася цудоўна, нават з бардзюрам з большых камянёў. Бо мала хто па ёй цяпер ходзіць. «Польскі брук!» — пахітваецца і шырака махае рукамі равінец, імкнучыся так многа выказаць жэстам. У яго ў руках нож, якім ён, усё тымі ж кавалерыйскімі ўзмахамі, абразае вінаград у гародчыку.

З трох сустрэтых тут мужыкоў двое былі з нажамі. Другі проста бульбу чысціў. «Сходзіце ў той канец вёскі, там жыве бабуля — 95 гадоў, — раіў ён нам. — Памяць такая! Усё вам раскажа». Прыходзім, пытаемся. Аказваецца, яна памерла ўжо тры гады як... Вёска, асабліва малая, перастае быць грамадой, гэта не соцыум, а прытулак адзіночак.





Старая глінабітная кузня ў Вялікім Сяле.



Мураваная сінагога ў Моўчадзі.




Моўчадзь.

## Прыватная вёска Ценявічы

Па дарозе да баранавіцкай трасы ўжо надвячоркам завітваем у яшчэ дзве брукаваныя вёскі: Саленікі і Ценявічы. У першай, мяркуючы па запаленым у вокнах святле, засталося пару жыхароў.

Другая — цалкам нежылая. Ценявічы — гэта, хутчэй, гатэль для турыстаў у выглядзе вёскі. Яна належыць прадпрымальнікам, якія знайшлі абязлюдзелым Ценявічам новае такое незвычайнае прызначэнне.

На ўездзе стаіць брама, хаты акуратна аднаўленыя, уздоўж брукаванай вуліцы ліхтарні, у цэнтры — вялізная карчма і сцэна. Зняць хату на дваіх каштуе 200 рублёў у выходны. Такой парой у Ценявічах нікога няма, апроч двух рабочых, якія рыхтуюць яшчэ адзін дом пад здачу.

**Адам Міцкевіч**

(1798—1855) класік польскай літаратуры. Нарадзіўся ў маёнтку Завоссе пад Наваградкам. Найбольш вядомыя ягоныя балады, шляхецкая эпапея «Пан Тадэвуш». Пісаў па-польску, але ў яго мове даследчыкі адзначаюць многа беларусізмаў.

Начаваць едзем у Баранавічы. Дадатковая зручнасць на начной трасе: разумнае аўто з дапамогай асістэнта *Light Assist* само пераключае далёкае святло на блізкае, калі з'яўляецца сустрэчная машына.

Дарогай мільгае ўказальнік на Завоссе, дом-музей Адама Міцкевіча.

У Баранавічах, дарэчы, таксама ёсць брукаванка на цэнтральнай вуліцы. І гэта не каменныя «каціныя лбы», а часаны кубікамі чорны базальт.

## Моўчадзь

Наступны дзень мы, паблукаўшы трохі па Новай Мышы, пачынаем з Моўчадзі. Гэта атмасфернае мястэчка, якое ляжыць нібы на адной з трыбун вялізнага прыроднага амфітэатра, арэнай якога з'яўляецца пойма ракі з той самай, што і мястэчка, назвай. І стоячы на былой рынкавай плошчы, бачыш неймавернай прыгажосці восеньскія лясы на процілеглай «трыбуне».

Працяг на старонцы 16.

# Беларускія брукаванкі. Каралеўскімі дарогамі гістарычнай Наваградчыны

Працяг са старонкі 15.

Хаты з дзвярыма на вуліцу. (Бо навошта пакупніку аціраць завуголлі, шукаючы ўвахода ў краму з найлепшым таварам?) Хаты, адлегласць між якімі — метры два, з дзвярыма адна да адной. (Бо як інача забегчы да сваякоў пагутарыць пра сёе-тое і не змерзнуць зусім у такі вялікі мароз?) Хаты на высокім падмурку з дзвярыма ў цокалі проста на кірмашны пляц... У вайну тут стала гета. На помніку забітым землякам — два дзясяткі беларускіх прозвішчаў. І пазнака пра «3600 іншых савецкіх грамадзян». Ні слова пра яўрэяў.

Узбоч помніка ідзе брукаванка.

Крамы на пляцы ў Моўчадзі цяпер усяго дзве, прыватная і дзяржаўная. Магазіншчыца, пачуўшы пра наша зацікаўленне брукам, падказвае заехаць у суседнія Соргавічы.



Нізаўцы. Апошні конь.

### Мікалай з Данбаса

На чыгуначным пераездзе сустракаем дзядзьку на ровары ў форменнай чыгуначнай куртцы. Дзівімся яго нязвыкламу паўднёваму маўленню: у Моўчадзі гавораць добрай літаратурнай мовай.

Аказалася, Мікалай — украінец з Данбаса. Але не з новых перасяленцаў, жыве тут ужо 42 гады. «Як быў малады, турыстычнае агенцтва «Спутнік» рабіла паездкі па СССР, — расказвае ён сваю гісторыю. — А вона (гэта значыць, яна, будучая жонка) была адсюль, з Соргавіч, даярка. Мы з ёй у паездцы і пазнаёміліся, у Ерэване. Пасля напісаў ёй ліст ужо з дому, ці згодная выйсці за мяне. Пажаніліся. Трохі там пажылі, сын нарадзіўся, пераехалі сюды». На Данбасе ў Мікалая застаўся брат, у вядомай па нядаўніх трагічных падзеях Аўдзееўцы. «Піша мне. Там проста вайна. Ноччу ў падвал хаваемся, кажа. Цяпер хоць трохі сціхла».

Прыпускае дождж, і мы развітваемся. Мікалая гне да зямлі свежае гора: памёр той сын нядаўна.

Ад чыгуначнага пераезда некалькі кіламетраў да Соргавіч









Бярозаўка. Руіны царквы.

ідзе брукаванка, атачаная старымі кляновымі прысадамі. Штовосень тоны біямасы ападаюць на брук, усё глыбей хаваюць яго.

### Валянцінаў двор

Кіруючыся да наваградскай трасы, вырашаем заехаць у Амневічы. Заезд у вёску ляжыць фактычна праз Валянцінаў двор. Валік, як называе яго маці, Зінаіда Іванаўна, бацька чатырох дачок, працуе ў фермера, які тут жа праз некалькі хат жыве. Фермер мае 200 гектараў зямлі, яму дапамагаюць чатыры пастаянныя работнікі, у сезон наймае яшчэ. Зарабляе Валянцін 500 рублёў на месяц — неблагія для вёскі грошы. Плюс свая гаспадарка — ды якая! Усе магчымыя віды хатняга птаства (уключна з індыкамі, вядома), авечкі, каровы.

Ёсць нават конік — малодшая дачка-дзевяцікласніца займаецца ў мясцовым конным клубе, дык ёй купілі дзікае жарабя, яна яго абʼязджае.

Гаварылі з гэтымі разважлівымі светлымі людзьмі, і нараджаўся супакой пасля ўсіх пабачаных за падарожжы карцін выраджэння і спусташэння. Ніякай мітусні, ніводнай пустой думкі не было ў іх гутарцы. На такіх Валіках трымаецца сёння вёска, а можа, і не толькі яна.

### Свіцязь

Па дарозе да Навагрудка заязджаем на Свіцязь. Яна ўражвае чысцінёй і празрыстасцю. Берагі апетага Міцкевічам возера бязлюдныя ў гэтую пару.

Сярод кручаных дубовых стаўбуроў на ўзбярэжжы дзе-

**Паходжанне прозвішча Сас**

«Сасамі» ў XVIII стагоддзі называлі каралёў Рэчы Паспалітай Аўгуста II Моцнага і яго сына Аўгуста III, якія паходзілі з германскай зямлі Саксоніі. А таксама ўсіх саксонцаў, якія следам за Аўгустамі прыехалі на службу ў Рэч Паспалітую.

нідзе бачныя вялізныя чорныя пні ад дрэваў, што раслі тут у часы Міцкевіча, а мо і ў часы ягоных персанажаў.

## Заройскі староста

На брукаванцы ў Радагошчы нам раяць паехаць у Зарой. Па-першае, там брук, па-другое, «там ёсць староста, вельмі цікавы мужык».

Спрабуем праправацца ў той Зарой праз Лабачы, але кабеты ля аўталаўкі адгаворваюць: засядзеце вы там.

Едзем кругавой дарогай.

Зарой аказваецца вялікай вёскай, у якой заўважаецца высокая ступень самаарганізацыі насельніцтва. Напрыклад, арганізаваліся — і паставілі памятны знак землякам, якія працавалі на нямецкай прыфрантавой вузкакалейцы ў 1916-м.

У пакінутай хаце зрабілі царкву, ўссадзіўшы на комін макавіну з крыжам. Ёсць «клуб», куды раён збіраўся аддаць спісаныя бібліятэчныя фонды... А летась зладзілі свята вёскі з артыстамі па мінскім узоры — на гадавіну вызвалення Зароя.

Рухавіком усёй гэтай вясковай грамадскай дзейнасці з'яўляецца «староста» Святаслаў Сас. Яму за 50, ён вайсковы адстаўнік. Скончыў Львоўскае вайскова-палітычнае, служыў у Баранавічах у МНС, быў пасля кінолагам у вайсковай часты. Мае кватэру ў Баранавічах, але жыве тут з 82-гадовай маці. «Я для сельсавета як бяльмо на воку, — імпэтна кажа ён. — Увесь час нечага ад іх дабіваюся. То клуб зрабіць, то расклад мясцовага аўтобуса выправіць, то пакінутую ферму хацеў выкупіць...»

У хаце не па-халасцяцку прыбрана і акуратна, хоць відавочна, што парадкуецца тут сам Святаслаў. Ён запрашае нас застацца начаваць, спакушаючы раніцай пачаставаць дранікамі ўласнага прыгатавання, але тактоўна дзякуем: дарога далёкая.


Нізаўцы.

У Зарoі здаўна была традыцыя палоць брукаванку, каб трава не расла. Паводле словаў Святаслава, яны робяць так дагэтуль. На яго хаце вісіць шыльда «Дом узорнага парадку». А на другім канцы вёскі людзі пасяліліся ў халупе без электрычнасці: рэжуць на дровы стары хлеў, паляць печ, у ёй і есці робяць. Такія кантрасты.

**Навагрудак**

Першая сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Згодна з летапісамі, у 1250-х адзін з літоўскіх князёў Міндоўг, падпарадкаваўшы сабе іншых, пачаў княжыць тут. Паводле адной з версій, менавіта ў Навагрудку ён прыняў каталіцтва і каралеўскую карону ад рымскага Папы.

## Навагрудак

Праз брукаваныя таксама Кузьмічы выязджаем на навагрудскую дарогу. Старая сталіца сустракае чародкамі задаволеных школьнікаў, якія адвучыліся апошні дзень чвэрці. Падноўленая нядаўна замкавая вежа глядзіцца руҗовенька і кантрастуе з другой. Будзем спадзявацца, вятры і дажджы з часам нададуць ёй адпаведнае гістарычнае абліччa.

За Навагрудкам на нашай мапе брукаванак таксама стаіць кропка.

На ўскрайку Навагрудка, там, дзе вуліца Лідская ператвараецца ў вёску Грабнікі, бацька з сынам рамантуюць старую «Волгу», яны і падказваюць: вунь брукаванка, за сялом, перад полем электраветракоў.

Пасля яна перарываецца ворывам і зноў пунктірам з'яўляецца каля вёскі Байкі.

Далей мы знаходзім яе каля Мількавіч, дзе яна заводзіць нас у лес, пад шлагбаум, каб зноў узнікнуць у наваколлі Пятрэвічаў.

Гэта парэшткі старога тракта, які, праз Бярозаўку, радзіму спевака Зміцра Вайцюшкевіча, вёў на Ліду і Гродна. Можна меркаваць, што ім карысталіся з часоў вялікага князя Гедыміна, які ставіў тут замкі, каб бараніцца ад крыжакоў.


На заройскім бруку.


Участак старога Лідскага тракта, ваколіцы Пятрэвіч.

Стары Лідскі шлях дублюецца новай трасай Р11, па ім амаль ніхто не ездзіць — а які мог бы быць экскурсійны маршрут, каб не ўспорвалі брукаванку цяжкімі плугамі, не ссякалі старажытныя дрэвы абапал яе...

За Пятрэвічамі мы губляем след Лідскага тракта і ледзь не губляемся самі, спрабуючы выехаць на Макрэц лясной дарогай пад горку. Дарогу прабівалі трактары, а дажджавая вада вымыла каляіны з рыфамі валуноў. *Volkswagen Tiguan* лавіруе, потым усё ж становіцца ў каляю. Але кліранс дазваляе прайсці там, дзе сеў бы звычайны легкавік. Здрадліва пырскае дождж, утвараючы між коламі і грунтам слізкую праслойку, на якой красовер падбуксоўвае, але выходзіць-такі наверх. Добра, што лес скончыўся: наступны пад'ём мы проста аб'язджаем па полі.

Праз Уселюб з густоўным гатычным касцёлам трапляем у ваколіцы Беніна. Тут, на малалюдных дарогах, маса вёсак яшчэ забрукавана.

## Як зарабіць паўтары тысячы

У Нізаўцах, нягледзячы на надвячорак, ідзе рух: парадкаваць бацькоўскую хату прыехаў адстаўны генерал-маёр расійскага войска. «Служыў у Варкуце, зэкаў ахоўваў», — ківаюць суседзі на строгага сівога дзядзьку ў камуфляжы. У астатнім жыццё тут — як паўсюль. Работы ў ваколіцах надта што не знойдзеш, хіба што ў лесе: на лісічках можна за лета тысячы паўтары даляраў закалаціць.

Брук тут скрозь: у старым Беніне, Ляхавічах, Рахаўцы і Чарэшлі, над аднайменным возерам, дзе сканчаецца наш маршрут. Чарэшлю здымаем ужо ў поўнай цемры, разварочваючыся ў прыазёрным тупіку па прыборах, з дапамогай парковачнага асістэнта і святлодыёдных задніх ліхтароў.

Каля Іўя выязджаем на трасу Гродна —Мінск, якая дазваляе ацаніць ходавыя якасці машыны. *Volkswagen Tiguan* выдатны на разгоне: траса рамантуецца, яна вузкая, з моцным сустрэчным рухам, і шанец абагнаць якога-небудзь ціхахода выпадае нячаста. Машына чуйна рэагуе на педаль газу, разганяючыся за секунды з 60 да 120 у гадзіну. Яшчэ ў раёне Пяршаяў бачым у хмарах на ўсходзе праблiскі: свеціцца Мінск.

Як сведчыць бартавы камп'ютар, за два дні падарожжа мы праехалі 715 кіламетраў з сярэдняй хуткасцю ўсяго 37 кіламетраў за гадзіну. І большасць пройдзеных дарог мы не адолелі б на сярэднестатыстычным легкавіку. Але пабачаныя мясціны былі вартыя рызыкі. Будзем спадзявацца, наш праект прымусіць задумацца турыстычныя агенцыі, якім мы даём у рукі гатовыя маршруты. А таксама натхніць чытачоў на новыя падарожжы і адкрыцці. Сустрэнемся на брукаванках!

**Андрэй Скурко, фота Сяргея Гудзіліна**


Навагрудак.

*Дзякуем Volkswagen у Беларусі за прадастаўлены для падарожжа аўтамабіль. Хоць двух дзён, канечне, было мала, каб раскрыць усе таямніцы і магчымасці Volkswagen Tiguan.*

# Мінчанка, у якой зусім не растуць валасы на целе: «З мужчынамі ў мяне праблем не было, затое жанчыны…»

**Мастачцы, псіхолагу і будучаму тату-майстру Кацярыне Ф. 37 гадоў. І толькі два гады таму яна змагла ўпэўнена сказаць сабе: так, я хачу быць сабой, пачаць спакойна наведваць трэнажорную залу і танцы.**



Кацярына сёння — вельмі пазітыўны чалавек. Але так было не заўсёды…

Калі Каці быў годзік, з яе цела цалкам зніклі валасы. Пастаўлены дыягназ «алапецыя» ніколі не выклікаў у яе фізічных пакут, але людзі навокал пастаянна нагадвалі: з ёй здарылася нешта жахлівае і гэта абавязкова трэба хаваць.

Алапецыя — гэта захворванне, для якога характэрна аблысенне, частковае або поўнае выпадзенне валасоў на галаве. У той ці іншай форме з'ява вядомая амаль кожнай беларускай сям'і: ад прыроды ў беларусаў не самыя густыя валасы, а адсутнасць сонца, стрэсы і не найлепшае харчаванне дабіваюць іх яшчэ больш.

Здараецца, што валасы знікаюць на ўсім целе. Такое адбылося з Кацяй. Прычыны кардынальных зменаў у арганізме медыкі называюць розныя, але канкрэтыкі і эфектыўных лекаў для поўных алапецянаў і алапецянак да гэтага часу не вынайшлі.

Каця расказала пра тое, як гэта — быць адзінай «не такой» піянеркай у класе, чаму бацькам не трэба лячыць дзяцей ад таго, што не перашкаджае жыць, і як перастаць самому шукаць праблемы там, дзе іх няма.

— Усё здарылася, калі мне быў усяго год. Я была маленькай дзяўчынкай, у якой яшчэ адсутнічаў нейкі ўнутраны стрыжань, а тут вакол пачаўся ўвесь гэты негатыў.

Я пачувала сябе цалкам здаровай, але мяне пастаянна даследавалі і лячылі. Дактары транслявалі адно і тое ж: «З табой нешта не так».

Гэта цяпер пра алапецыю можна знайсці шмат інфармацыі, а ў 1980-я ў Савецкім Саюзе ўсе піянеры стаялі аднолькавыя, і толькі я адна ў хустачцы.

Чаму так і што з гэтым рабіць — ніхто адказаць дакладна не мог.

Бацькі разлічвалі, што здарыцца цуд і я стану «нармальнай». Што толькі ў мяне не ўлівалі! Аднойчы мы паехалі за мяжу да нейкага свяцілы, які абяцаў мяне вылечыць. Спачатку мне ўвялі лекі пад адну лапатку, праз некалькі дзён — пад другую. Я крычала бы шалёная: было вельмі балюча. Пасля ўсё нямела, і я доўга нічога не магла рабіць рукой, з боку якой быў укол.

У школу я хадзіла спачатку ў хустачцы. Пасля — у парыку. Слова «лысая», якое мне пастаянна крычалі наўздагон, набыло настолькі негатыўную афарбоўку, што і сёння рэжа слых, хаця я разумею, што гэта цалкам нармальнае азначэнне. Нейкі час я проста глытала крыўды, а ў падлеткавым узросце стала больш агрэсіўнай: магла і пабіць у адказ.

Канечне, хапала момантаў, калі я не хацела нават жыць: я лічыла, што нічога не змагу дасягнуць менавіта праз сваю праблему.

Аднак мне пашанцавала, што ў розныя моманты на шляху трапляліся людзі, якія знаходзілі правільныя словы падтрымкі.



З маленькімі алапецянамі ў Расіі.

Нягледзячы на тое, што ў цэлым я была здаровай, мяне вызвалялі ад любых актыўных заняткаў. Фізкультуру не наведвала, таму што ўсе вакол баяліся: на іх погляд, гэта магло прывесці да нейкіх нечаканых наступстваў. Ну, ці што ў мяне зваліцца парык падчас выканання практыкаванняў.

Адмовіцца ад парыка я змагла толькі ў 20 гадоў.

Параілася са знаёмымі і спачатку проста прыйшла на заняткі ў вязанай шапцы. Мне ніхто нічога не казаў, хаця, думаю, аднагрупнікі былі ў шоку. Без парыка мне стала куды больш камфортна. Праўда, кожны наступны раз у новых месцах і з новымі людзьмі я адчувала трывогу.

Пасля мяне прымушалі надзець парык толькі адзін раз: для працы на карпаратыве ў якасці мастачкі. Ім былі патрэбныя людзі стандартнай знешнасці.

Я памятаю, што купіла самы танны парык: ён вельмі цісную, было горача і некамфортна. Такім чынам я неяк адпрацавала два мерапрыемствы, а на трэцім у мяне настолькі разбалелася галава, паднялася высокая тэмпература, што, нягледзячы на забарону, я зняла парык і зусім адмовілася з тымі заказчыкамі супрацоўнічаць.

У мяне ніколі не было праблем у камунікацыі з мужчынамі, хаця страхаў, што яны могуць не ўспрымаць мяне, хапала. У 20 гадоў мой хлопец наўпрост сказаў: «Мне ўсё роўна, як ты выглядаеш». Яго гэта не парыла. А вось ад жанчын я нацярпелася: і калі насіла парык, і калі перайшла на шапкі. «А што з табой?», «Чаму ты не хочаш стрыгчыся?» — усе гэтыя пытанні мяне моцна ранілі.

Паглядзець на свет па-новаму я змагла, калі два гады таму трапіла ў Маскву. У Расіі вельмі актыўны рух: так, у Піцеры Андрэй Андрэеў у межах праекта «Алапецыя. Шчасце быць сабой» працуе з лысымі дзеткамі, у Маскве Марына Золатава ладзіць сустрэчы для лысых дзяўчат з візажыстамі і фотасесіямі. Яна таксама вядзе сайт «Алапецянка» з гісторыямі гэтых людзей, адтуль я і даведалася пра іх супольнасць. Таксама ў Маскве ёсць Андрэй Папоў і яго «Міжнародны клуб лысых мужчын», дзякуючы гэтым людзям я знялася ў сацыяльным роліку.

Мая паездка да іх была напоўненая і трывогай, і радасцю. Упершыню ўбачыць столькі лысых людзей у адным месцы, калі раней ты ўвесь час была такой адна, стала вельмі моцным эмацыйным момантам — у мяне рвала дах ад новых уражанняў. Якраз у Маскве я пазнаёмілася з яшчэ адной дзяўчынкай: алапецянкай з Беларусі Ірай.

У Беларусі ўсе хаваюць сваю лысасць. Акрамя Іры і яшчэ адной дзяўчыны, я не сустракала адкрытых алапецян. Але стаўлюся да гэтага спакойна: казаць пра гэта адкрыта ці не — справа кожнага.

Я таксама вельмі баялася здымаць шапку ў грамадскіх месцах. Была ўпэўненая ў тым, што беларусы не змогуць рэагаваць на гэта нармальна. І я была прыемна здзіўлена, што сучасныя мінчукі падыходзяць, робяць кампліменты, могуць папрасіць разам сфатаграфавацца. Канечне, лысы чалавек адразу становіцца цэнтрам увагі. Але калі ты ўпэўнены ў сабе, то будзеш прыцягваць пазітыў.

Пасля наведвання Масквы я вельмі гарэла гэтай тэмай. Я паўтарала ўсім навокал: «Лысыя самыя крутыя!» У нейкі момант гэта надакучыла нават маім сябрам: яны далі зразумець, што я зашмат кажу пра гэта.

Я думала, што лысыя могуць мяне зразумець, а мае сябры не. Насамрэч, адсутнасць валасоў ніяк не ўплывае на якасці чалавека.

Калі мне нехта піша і просіць даць параду — я магу падзяліцца ўласным досведам. Але не хачу рабіць гэта сэнсам свайго жыцця. Я стамілася круціцца толькі вакол праблемы, увесь час яна была большай і важнейшай за мяне. Цяпер я збіраюся проста атрымліваць асалоду ад жыцця: мне 37, а толькі ў 35 я змагла адчуць такую свабоду. Шмат у чым мне дапамагла псіхалогія: я мэтанакіравана атрымала другую адукацыю ў галіне гештальт-тэрапіі.

Часам мне пішуць бацькі дзяцей з алапецыяй. Менавіта дарослым я магу прапанаваць звярнуцца да псіхолага, каб не нарабіць у далейшым памылак, якія могуць паўплываць на якасць жыцця дзіцяці з алапецыяй.

На мой погляд, лепш выдаткаваць час і энергію сям'і не на медыкаў, а на актыўнае жыццё, вандроўкі, дзіцячыя забавы. Самае галоўнае, простае і адначасова складанае правіла: любіце сваіх дзяцей такімі, якія яны ёсць!

Калі б з'явіліся добрыя лекі ад алапецыі, усе б мы даўно пра гэта ведалі, але пакуль іх няма.

Ужо калі я была дарослай, мае бацькі сказалі: «Відаць, дарэмна мы рабілі з табой усё тое, што казалі дактары». Для мяне гэта быў вельмі важны момант. Сёння яны вельмі ганарацца тым, кім я стала. З задавальненнем чытаюць усе артыкулы пра мяне, глядзяць ролікі з маім удзелам.

Калі б мы жылі ў грамадстве, дзе ўсе людзі лысыя, то ізгоямі былі б валасатыя.

Але ў нас па-іншаму. Таму трэба знайсці свой дзэн унутры і перастаць хваляваццa, што ты нейкі не такі. Я рэальна зразумела, што гэта не праблема. Чаго і ўсім жадаю.

**Кацярына Карпіцкая, фота з архіваў гераіні**

# Не маржаваць, рухацца, рэгулярна займацца сэксам — а калі не, то не ўзбуджацца. Ратуем маладых ад прастатыту

Прастатыт — самая частая прычына звароту да ўролага ў мужчын. Праблема, з якой сёння хлопцы сутыкаюцца ўжо ў 17—18 год. Загадчыца ўралагічнага аддзялення медыцынскага цэнтра «Ладэ» Вольга Антонава расказала нам, чаму так адбываецца і што з гэтым рабіць.

Прастату дактары называюць другім сэрцам мужчын, бо гэта вельмі важны орган. Ад прастаты, па вялікім рахунку, залежыць якасць жыцця мужчыны. Чаму?

Калі ёсць праблемы з прастатай, у мужчыны знікае палавая цяга, скарачаецца палавы акт, аргазм «сцёрты», проста няма задавальнення ад сэксу, а пасля аргазму могуць непакоіць болі. У выніку падае настрой і агулам жыццёвы тонус. Сярод найбольш глабальных наступстваў — бясплоддзе: падчас запалення прастаты сок робіцца вязкім, і ў выніку зачацце становіцца немагчымым.

### Як прастатыт дае пра сябе знаць

Найперш мужчын хвалюе аслабленне напору мачы.

Мочавыпусканне можа праходзіць з цяжкасцямі, асабліва раніцай.

Часцей хочацца ў прыбіральню, у тым ліку ноччу, мужчыны могуць прачынацца па два-тры разы.

Таксама непакоіць боль унізе жывата, у пахвіне, машонцы.

### Што рабіць, калі ўсе сімптомы ёсць

Не спрабуйце выратаваць сітуацыю народнымі сродкамі і БАДамі, а ляціце да доктара. Ён прызначыць двухтыднёвае лячэнне, пасля якога ўсё пройдзе. Калі ж паход да доктара зацягваецца, то пасля запушчаную хваробу можна лячыць і паўгода, і год.

### Як дапамагчы прастаце

Перш за ўсё — не пераахалоджвацца. Аматары аблівацца халоднай вадой хутчэй за ўсё будуць мець праблемы з прастатай. Купанне ў палонцы, скаканне ў снег пасля лазні — усё гэта амаль у 100% прыводзіць да «мужчынскіх праблем».

Басейн — можна, бо вада там цёплая і пераахалоджвання не будзе.

Ровар — таксама можна, калі не вандраваць з ім у гарах і не пераадольваць тысячы кіламетраў.

Другое — для прастаты ідэальны рэгулярны сэкс, два-тры разы на тыдзень.

Калі сэксу няма, адбываецца застой, і запаленчы працэс можа нарастаць нават без бактэрый. Шкодны таксама перарваны палавы акт, бо пасля аргазму не адбываецца поўнай разрадкі, няма поўнага адтоку крыві. Тое, што застаецца ў тазе, падтрымлівае запаленне.

Менш сядзець. Асабліва гэта тычыцца людзей сядзячых прафесій, таму што, зноў жа, адбываецца застой крыві. У кіроўцаў, праграмістаў амаль ва ўсіх ёсць застойныя з'явы ў малым тазе. Як гэта лечыцца? Рухамі, перапынкамі ў працы: пасля 45 хвілін сядзення трэба прайсціся, папрысядаць.

І яшчэ — адмовіцца ад алкаголю, асабліва моцнага, і вострай ежы.

### Чаму на прастатыт хварэюць маладыя

Прычын некалькі. Па-першае, чым больш у вас палавых партнёраў, тым больш хвароб. Ва ўсіх розная мікрафлора, а гэта значыць, што і розныя хваробы. Любая хвароба ва ўрэтры, у канале, можа распаўсюдзіцца, падняцца ўверх і паразіць прастату.

Па-другое, праз нерэгулярнасць палавога жыцця. Вось гэтая нестабільнасць — то ёсць, то няма — вельмі шкодзіць прастаце. Ёй неабходна альбо рэгулярнае палавое жыццё, альбо ўвогуле яго адсутнасць. Чаму?

Калі мужчына жыве без сэксу, без узбуджэння, у гіпофізе, гэта не мозгу, ідзе гарманальная рэгуляцыя. Сок прастаты перастае выпрацоўвацца ў колькасці, неабходнай для чалавека, які вядзе актыўнае палавое жыццё. І прастатыт не развіваецца.

### Чаму прастатыт сярод пажылых стаіць асобна

Паколькі тут іншыя прычыны: пачынаюцца ўзроставыя змены, расце дабраякасная пухліна ў прастаце — адэнома. Гэта звязана з гарманальнай перабудовай, змяненнем узроўню мужчынскага палавога гармону — тэстастэрону. Менавіта таму ў мужчын пасля 50—55 гадоў нельга гаварыць пра чысты прастатыт, пра хваробу як пра запаленне. У гэтым выпадку адэнома прастаты як правіла спалучаецца з прастатытам.

Мужчынам ва ўзросце будзе не лішнім раз на год здаваць кроў з вены на ПСА — вызначыць колькасць прастата спецыфічнага антыгену. Аналіз пакажа, які стан прастаты ў плане анкалогіі. Гэта робіцца для таго, каб не прапусціць развіццё злаякаснай пухліны, — падсумоўвае доктар.

### А што яшчэ трэба ведаць

Для здароўя прастаты варта не толькі весці здаровы лад жыцця, але і памятаць пра правільнае харчаванне з усімі неабходнымі вітамінамі і мікраэлементамі.

Алей насення гарбузоў багаты на мікраэлементы (Zn, Fe, Mg, Se), утрымлівае вітаміны і флаваноіды. У выніку нармалізуецца стан прастаты, змяншаецца ацёчнасць і запаленне.

Мікраэлемент цынк (Zn) у мужчынскім арганізме адыгрывае важную ролю ў працы прастаты і ва ўтварэнні мужчынскага палавога гармону — тэстастэрону. Чэмпіён сярод прадуктаў з высокім утрыманнем цынку — вустрыцы, але яны беларусам недаступныя, бо мы далёка ад мора. Але багата гэтага мікраэлементу таксама ў гарбузовых семачках, кедравых арэхах і кунжуце.

Фітастэролы станоўча ўплываюць на сінтэз тэстастэрону і нармалізуюць працу рэпрадуктыўнай сістэмы мужчын. Шмат фітастэролаў у алеі насення гарбузоў, экстрактах пальмы сабаль і крапівы двухдомнай.

Антыаксіданты (комплекс вітамінаў A + E + C, экстракт кактуса апунцыя, тамата, чорная парэчка, плады цытрусавых) запавольваюць старэнне клетак і дапамагаюць арганізму спраўляцца з аксідатыўным стрэсам.

Гэтыя вітаміны і мікраэлементы ўтрымліваюцца ў спецыяльна распрацаваных комплексах для ўмацавання прастаты.

Карысныя звычкі ў харчаванні і правільны рытм жыцця дапамогуць падтрымліваць бадзёрасць і рэпрадуктыўнае даўгалецце.

# Як не захварэць на цыстыт — самую распаўсюджаную жаночую хваробу

Калі ўжо здарыўся цыстыт, то яго немагчыма не заўважыць, ён прыносіць вялікі дыскамфорт. Найчасцей да ўролага звяртаюцца якраз з гэтай праблемай.

Мы распыталі загадчыцу ўралагічнага аддзялення медыцынскага цэнтра «Ладэ» Вольгу Антонаву, што важна ведаць пра гэтую хваробу і як яе пазбегнуць.

### Што такое цыстыт і як ён праяўляецца

Цыстыт — самая распаўсюджаная мачавая інфекцыя. Фактычна кожная жанчына хоць раз у жыцці з ёй сутыкаецца.

Цыстыт адразу дае пра сябе знаць: цягнучы боль унізе жывата, у пахвінных зонах, рэзь пры мочавыпусканні, бясконцыя патрабаванні арганізма схадзіць у прыбіральню, начныя пад'ёмы па тых жа прычынах. Калі стан востры, то ў мачы можа быць кроў.

### Чаму хварэюць менавіта жанчыны

У жанчын урэтра карацейшая і шырэйшая, чым у мужчын, і інфекцыя лёгка трапляе ў мачавы пухір. Таму цыстыт і лічыцца найперш жаночай хваробай. Прычым пакутуюць на цыстыт у любым узросце: дзеці, дзяўчаты, што пачынаюць жыць палавым жыццём, жанчыны ў гадах, у якіх ідуць гарманальныя перабудовы, клімакс. Стончаная слізістая ва ўрэтры, у мачавым пухіры, у похве менш здольная супраціўляцца бактэрыям.

У мужчын часцей за ўсё разам з запаленнем мачавога пухіра адбываецца запаленне прастаты. То бок асобнага дыягназу як цыстыт практычна не бывае, бо гэта сумесная запаленчая рэакцыя.



Кішэчныя палачкі — самы распаўсюджаны ўзбуджальнік цыстыту.

### Што правакуе хваробу

Пераахаладжэнне, сэкс, няправільны гарманальны фон. Калі гаварыць пра дзяцей, то каталізатарам могуць быць паразітозы. Праз іх узнікае запаленне перад похвай, якое можа перайсці на ўрэтру і мачавы пухір.

Як ні банальна, цыстыт можа справакаваць стрэс. Да прыкладу, калі мачавы пухір — гэта «слабае» месца жанчыны, і праблемы ўжо былі, то пры стрэсе, пераахалоджванні, калі імунітэт падае, яны могуць абвастрыцца.

Таксама спрыяе цыстыту нашэнне штодзённых пракладак, бо гэта выклікае дысбіёз у похве. Тое самае тычыцца і стрынгаў, таму што праз іх бактэрыі могуць трапіць з задняга праходу ў вобласць урэтры.

Жанчыны, якія любяць салодкае, таксама больш схільныя да цыстыту. Салодкае спрыяе размнажэнню кішэчнай палачкі — самага частага ўзбуджальніка хваробы. Кішэчная палачка жыве ва ўсіх людзей, яна дапамагае арганізму. Але, на жаль, у гэтым відзе бактэрый ёсць патагенныя штамы, якія выклікаюць інфекцыі мачавых шляхоў. Калі ў жанчыны развіваецца дысбактэрыёз у кішэчніку, то ён абавязкова паўплывае і на іншыя органы. У выніку фарміруецца няправільная мікрафлора ў пераддзвер'і похвы, што можа прывесці да цыстыту.

У групе рызыкі таксама знаходзяцца жанчыны, якія пакутуюць на цукровы дыябет і розныя гінекалагічныя хваробы.

### Як сэкс звязаны з цыстытам

Падчас сэксу ўласная інфекцыя жанчыны чыста механічна пераносіцца мужчынскім палавым органам з пераддзвер'я похвы і ўціраецца ва ўрэтру. Гэта можа адбыцца нават пры абароненым сэксе.

Можа быць і іншая сітуацыя, калі на скуры ў мужчыны жыве мноства яго бактэрый, якія нават не лічацца патагеннымі. Ён да іх прывык, яны ў яго дыскамфорту не выклікаюць, ён іх не адчувае. Але для жанчыны, у якой імунітэт часцей за ўсё слабейшы, яго мікробы могуць з'яўляцца патагеннымі. Падчас сэксу ён заносіць іх жанчыне, уцірае з пярэдняй сценкі похвы ва ўрэтру. Далей яны падымаюцца з урэтры ў мачавы пухір — і здараецца цыстыт.

### Што такое «цыстыт мядовага месяцу»

Гэта якраз той перыяд, калі ў дзяўчат пачынаецца актыўнае палавое жыццё. У многіх жанчын урэтра размешчаная вельмі блізка да пярэдняй сценкі похвы. Бактэрыі механічна заносяцца падчас сэксу і з прэзерватывам, і без яго (са скуры палавога партнёра).

Мікрафлоры партнёраў павінны «пасябраваць» адна з адной. Гэта адбываецца няхутка, можна і да паўгода, і да года чакаць. Таму заўсёды мусіць быць постсэкстальная прафілактыка. Пасля сэксу трэба схадзіць у прыбіральню памачыцца, памыцца з гель-душам для інтымнай гігіены і не лішнім будзе прыняць капсулу ураантысэптыку.

### Як засцерагчыся

Імкнуцца не пераахалоджвацца, піць шмат вады, 1,5—2 літры цягам дня. Таксама добра піць чай, але лепш не зялёны, бо ён можа спрыяць дыскамфорту пры мочавыпусканні, а травяны. І нельга ніколі цярпець, калі хочацца ў прыбіральню, бо падчас трывання ў мачавым пухіры размнажаюцца бактэрыі. Мікрафлора ў похве, кішэчніку павінна быць у норме. Нельга дапускаць дысбактэрыёз. Калі, да прыкладу, здарыўся панос, яго абавязкова трэба лячыць, а не чакаць, пакуль ён пройдзе сам.

### Якія могуць быць наступствы

Інфекцыя можа падняцца ў ныркі і справакаваць развіццё піеланефрыту. Пры гэтым захворванні ўздымаецца тэмпература, з'яўляецца ламота і боль у паяснічнай вобласці, агульная слабасць, недамаганне, можа ванітаваць. Піеланефрыт — гэта сур'ёзная праблема, якую лечаць у тым ліку ў стацыянары.

### Ці можна вылечыць цыстыт цалкам

Можна, але трэба выконваць усе пералічаныя вышэй прафілактычныя меры. Калі ўсё гэта рабіць, то можна ніколі і не захварэць. Важна не запускаць хваробу і не дапускаць рэцыдываў, якім заўсёды ёсць прычына.

Апошняе ноу-хау — вакцына ад цыстыту. Яе ўводзяць тры разы з інтэрвалам 10 дзён. Прышчэпка гарантуе, што хвароба не паўторыцца цягам года, але пасля неабходная рэвакцынацыя, — падагульняе доктар.

Цыстыт лечыцца ад трох да пяці дзён. Як правіла, лячэнне ўключае ураантысэптык, а таксама раслінныя прэпараты на аснове журавін, талакнянкі, якія аказваюць дадатковае супрацьзапаленчае і антысэптычнае дзеянне. Могуць выкарыстоўвацца і сродкі, што ўтрымліваюць Д-манозу. Гэты кампанент перашкаджае кішэчнай палачцы прымацоўвацца да слізістай мачавога пухіра, як следства — узбуджальнік выводзіцца з мачой. Раслінныя прэпараты рэкамендуецца прымяняць да месяца для прафілактыкі «вяртання» інфекцыі.

# Віцэ-прэм'ер Сямашка назваў цану беларускіх легкавікоў «Джылі»

Кошт легкавога аўтамабіля «БелДжы» беларускай зборкі будзе ў дыяпазоне 17—25 тысяч даляраў, заявіў віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка ў эфіры праграмы «Контуры» тэлеканала АНТ, піша Tut.by.

На пытанне, як ён ацэньвае перспектывы, Сямашка прызнаў: «Складана будзе. Не проста. Але мы ставім задачу ў наступным годзе выйсці на 25 тысяч аўтамабіляў, а потым па 10 тысяч дадаваць», — распавёў ён.

Сямашка нагадаў, што кіраўнік краіны паставіў задачу павялічыць гарантыйны тэрмін аўтамабіля з чатырох да пяці гадоў, цяпер ідуць кансультацыі па гэтым пытанні. «Будзем імкнуцца да таго, каб гэта было пяць гадоў. Але калі я купляў першую машыну, «Жыгулі» шостай мадэлі, адзін год быў гарантыі. Сёння пяць гадоў, і гэта не проста», — згадаў ён.

Ільготныя ўмовы крэдытавання, таксама абяцаныя кіраўніцтвам краіны, ужо распрацаваны, і ў хуткім часе, як распавёў Сямашка, праект дакумента пойдзе ў Адміністрацыю прэзідэнта. Віцэ-прэм'ер анансаваў ільготныя крэдыты на сем гадоў пры першапачатковым унёску — каля 10% пачатковага кошту аўтамабіля.




# Сенсацыя: акадэмікі пракацілі Каваленю

**У Акадэміі навук прайшлі выбары акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў. Яны адбываюцца кожныя тры гады.**

Як стала вядома «Нашай Ніве», вакансія акадэміка па спецыяльнасці «гісторыя Беларусі» засталася незанятай. Па выніках агульнага таемнага галасавання акадэмікаў былы дырэктар Інстытута гісторыі Аляксандр Каваленя (на фота) атрымаў падтрымку менш чым 2/3 удзельнікаў.



У чым сенсацыйнасць сітуацыі? Звычайна агульнае пасяджэнне зацвярджае вынікі галасавання па секцыях. Фізікі не карэктуюць выбар філолагаў, а хімікі пагаджаюцца з меркаваннем медыкаў. Аднак у сітуацыі з Каваленем звыклы алгарытм не спрацаваў.

Членамі-карэспандэнтамі НАН абралі 22 асобы, паведамляе БелТА. Найболей знакавыя фігуры — гэта экс-генпракурор Рыгор Васілевіч (па дадзеных Tut.by, 128 галасоў «за» і 39 «супраць») і дэпутат Ігар Марзалюк (127 галасоў «за» і 38 «супраць»).

А вось першы намеснік дырэктара па навуковай рабоце Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Аляксандр Лукашанец абраны акадэмікам. Па ягонай кандыдатуры пытанняў не ўзнікла.

Сярод кандыдатур у членыкарэспандэнты быў зрэзаны таксама філосаф Тадэвуш Адула.

Акадэмікамі сталі галоўны вучоны сакратар НАН Аляксандр Кільчэўскі, дырэктар РУП «Інстытут ільну» НАН Іван Голуб, першы намеснік дырэктара па навуковай рабоце ДНУ «Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі» Аляксандр Лукашанец, намеснік дырэктара па навуковай рабоце ДНУ «Інстытут фізіялогіі НАН Беларусі» Уладзімір Кульчыцкі, дырэктар РНПЦ траўматалогіі і артапедыі Аляксандр Бялецкі. Сярэдні ўзрост зноў абраных акадэмікаў — 64 гады.

Сярод 22 абраных членаўкарэспандэнтаў — намеснік генеральнага дырэктара па навуковай рабоце РУП «Навукова-практычны цэнтр НАН Беларусі па земляробстве» Эрома Урбан, цэлы шэраг вядомых вучоных-медыкаў, у тым ліку акадэмік-сакратар Аддзялення медыцынскіх навук НАН Мікалай Сердзючэнка, дырэктар ДУ «РНПЦ пульманалогіі і фтызіятрыі» Генадзь Гурэвіч, кіраўнік Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра трансплантацыі органаў і тканак Алег Румо. Сярэдні ўзрост знoў абраных членаў-карэспандэнтаў — 57 гадоў.

Напярэдадні, калі адбываліся пасяджэнні па аддзяленнях, — гуманітарыі галасавалі за гуманітарыяў, медыкі — за медыкаў і гэтак далей, у конкурсе на вакантнае месца акадэміка-гісторыка перамогу атрымаў 71-гадовы былы дырэктар Інстытута гісторыі, даследчык Другой сусветнай вайны Аляксандр Каваленя. Яго падтрымалі дзве трэціны ўдзельнікаў галасавання. Трэціна галасоў тады была ў яго канкурэнта, 78-гадовага гісторыка кампартыі Уладзіміра Бабкова.

«На сайце НАНБ пра Каваленю, дарэчы, напісана: «Автор более 400 научных и научно-методических трудов, в том числе 21 монографии...». Але не варта інфармацыю пра такую колькасць манаграфій успрымаць сур'ёзна. Тут гаворка ідзе ў асноўным пра так званыя «калектыўныя манаграфіі» — абагульняльныя зборнікі на розныя, звычайна шырокія, тэмы, дзе Каваленю належыць толькі нейкі раздзел (прытым не факт, што і ён напісаны індывідуальна, а не ў суаўтарстве). Фактычна гэта больш падобна на артыкул, чым на кнігу. Але для пускання пылу ў вочы гэта добра надаецца, асабліва для людзей, якія не ведаюць «кухні». Калі ж угледзецца ва ўсё гэта больш пільна, то індывідуальных манаграфій з 21 акажацца толькі дзве», — тлумачыць гісторык Аляксандр Пашкевіч.

**Браніслаў Юрэвіч**

**Навука**

## Навукоўцы знайшлі ў кішачніку фермент, які ўплывае на працягласць жыцця, і здолелі падоўжыць жыццё мух

Навукоўцы з Вялікабрытаніі і Нідэрландаў змаглі павялічыць працягласць жыцця мух і чарвякоў дзякуючы абмежаванню актыўнасці ферменту, які знаходзіцца ў кішачніку ўсіх жывых істотаў, у тым ліку людзей, піша *Eurekalert*.

Зніжэнне актыўнасці ферменту Pol III у кішачніку мух і чарвякоў было дастатковым для падаўжэння іх жыцця. Таксама мухі жылі даўжэй, калі іх дзеянні прыгняталі толькі ў ствалавых клетках іх кішачнікаў.

Фермент РНК-полімераза-III (Pol III) неабходны для паскарэння бялковага сінтэзу і росту клетак. Аднак, як адзначае выданне, ягоная роля ў старэнні не была вядомая да гэтага часу.

Згодна з вынікамі працы даследчыкаў, здольнасць выжывання клетак дражджэй, а таксама працягласць жыцця мух і чарвякоў павялічылася ў сярэднім на 10 адсоткаў пры невялікім зніжэнні актыўнасці Pol III у дарослым арганізме.

Для правядзення аналізаў выкарыстоўваліся дрожджы, мухі і чарвякі, бо ўсе гэтыя арганізмы моцна адрозніваюцца адно ад аднаго, але ўсе маюць Pol III.

Цяпер навукоўцы плануюць паглыбіць веды аб ферменце, каб зразумець яго функцыю ў дарослым арганізме і праліць святло на тое, як зніжэнне яго актыўнасці можа падоўжыць жыццё.

**Мова наша**

## «Уткні мяне, Божа, куды не трэба» — што гэта значыць?

На рэдакцыйную скрыню прыйшоў ліст, у якім чытач Ілля просіць патлумачыць значэнне пачутай ім беларускай фразы: «Уткні мяне, Божа, куды не трэба».

Такі выраз сустракаецца нават у класікаў. Прыводзіць яго ў думках Андрэй Лабановіч, герой коласаўскай трылогіі «На ростанях», пасля таго, як увязаўся ў бойку двух палешукоў, гнаны жаданнем расчапіць ваяк: «Яму было крыўдна тое, што сам ён — мужык, а не ведаў мужыцкіх звычаяў і зрабіў па прыказцы: «Уткні мяне, Божа, куды мяне не трэба».

У слоўніку «Прыказкі Лагойшчыны», складзеным Адамам Варлыгам, выдадзеным у Мюнхене ў 1966 годзе, так тлумачыцца гэты выраз: гэтак прыказвае сабе той, хто праз памылку папаў у непажаданае месца, дзе толькі сораму набраўся.

## Праваслаўная царква гатовая вянчаць да трэцяй жаніцьбы

Руская праваслаўная царква (РПЦ) захавала колькаснае абмежаванне для цырымоніі шлюбу. Як і раней, будзе забаронена вянчаць людзей, што паспелі пасля хрышчэння заключыць тры шлюбы, прычым улічваюцца як вянчанні, так і зарэгістраваныя ў ЗАГСах шлюбы, перадае агенцтва «Масква» з Архіерэйскага сабору РПЦ.

На ім зацвердзілі палажэнне «Аб кананічных аспектах царкоўнага шлюбу». Па-ранейшаму афіцыйна забароненыя аднаполыя царкоўныя шлюбы і шлюбы праваслаўных з «варожымі царкве ерэтыкамі».

Не дапускаюцца царкоўныя шлюбы людзей, якія знаходзяцца практычна на ўсіх ступенях крэўнага сваяцтва, а таксама хросных бацькоў з хроснымі дзецьмі.

**А як у іншых?**

## Ва Узбекістане масава правяраюць старшакласніц на цнатлівасць

Ініцыятыва закранула вучаніц старэйшых класаў школ і студэнтак каледжаў Самаркандскай вобласці. Як патлумачыў прадстаўнік адміністрацыі вобласці, робіцца гэта, каб высветліць, хто з дзяўчат ужо вядзе палавое жыццё, паведамляе *centralasian.org*.



Па словах чыноўніка, гэта дапаможа прадухіліць выпадкі суіцыду сярод маладых дзяўчат, якія, страціўшы цнатлівасць або зацяжарыўшы, вырашаюць скончыць жыццё самагубствам, каб пазбегнуць ганьбы. Чыноўнік кажа, што пасля агляду гінеколага з бацькамі дзяўчат, якія рана пачалі палавое жыццё, гутараць выкладчыкі, дактары і псіхолагі.

Паведамляецца, што падчас гінекалагічных аглядаў па ўсёй вобласці стала вядома пра дзясяткі цяжарных дзяўчат. Як сцвярджае супрацоўнік адміністрацыі Самаркандскай вобласці, пра гэта паведамілі выключна іх бацькам.

Аднак школьніцы і студэнткі каледжаў скардзяцца на тое, што іх прымушаюць праходзіць агляд у гінеколага, незалежна ад таго, хочуць яны гэтага ці не. Як прызналася адна са студэнтак, пасля агляду ў доктара ўвесь каледж неўзабаве даведаўся пра цяжарнасць адной са студэнтак.

Чыноўнік адміністрацыі дадаў, што масава адпраўляць дзяўчат да гінеколагаў пачалі пасля нядаўняга выступу ў Самаркандзе прэзідэнта Узбекістана Шаўката Мірзіёева. Ён выказаў занепакоенасць у сувязі з ростам колькасці самагубстваў сярод жанчын і дзяўчат. Па яго словах, за апошні час у Самаркандзе 145 жанчын і дзяўчат пайшлі на суіцыд.

**Nina.nn.by**

# «Кастрычніцкі пераварот — нож у спіну рэвалюцыі». Што адбывалася ў Мінску ў кастрычніку 1917 года

Працяг са старонкі 2.

На фронце панавалі настроі непазбежнай катастрофы. Сакрэтныя тэлеграмы сведчаць пра поўнае разбурэнне арміі і аб яе відавочнай крыміналізацыі. Нейкая «Варшаўская група» крымінальнікаў рабавала харчовыя склады і выразала жыхароў Мінска і прыгарада. «У сталовую 16-га эпідэмічнага атрада кінута бомба (сваімі), забіты фельчар, паранены доктар, тры сястры міласэрнасці, адна кантужана. 31-га палка салдат Салтыкоў забіў ротнага камандзіра, а салдат Стралкоў пераследаваў камандзіра з карабінам...Да ўлады адносіны насцярожаныя, недаверлівыя, часта варожыя. Афіцэры абыякавыя і бязвольныя, частка — дэмагогі». Камандуючы X арміяй Заходняга фронту (цэнтр — Маладзечна) генерал Кісялеўскі ў лісце ад 14 чэрвеня галоўнакамандуючаму Заходнім фронтам генералу А. Дзянікіну пісаў: «Я абавязаны Вам сказаць: армія цяжка хворая, каб выканаць свой абавязак...». Каласальная колькасць ахвяр, кепскае забеспячэнне зброяй, няўдачы на фронце сур'ёзна адбіліся на маральным стане арміі.

Вінаватымі ў падзенні нораваў палічылі не толькі бальшавікоў з іх газетамі, але і жанчын з «сурагатных», на думку А. Дзянікіна, вайсковых частак. Камісар Часовага ўрада на Заходнім фронце П. Балуеў 23 кастрычніка істэрычна патрабаваў ад Стаўкі галоўнакамандуючага прыбраць з фронту жаночы батальён, які дыслакаваўся каля Смаргоні, «апроч шкоды гэты батальён нічога зрабіць не можа...У сучасны момант разбурэнне арміі такое, што маленькая шкода небяспечная. Патрабую вывесці жаночы батальён з фронту».

Генерал Брусілаў у звароце ад 8 ліпеня 1917 г. да глаўкомаў франтоў выказаў думку аб неабходнасці стварэння частак добраахвотнікаў з прычыны пагрозы грамадзянскай вайны: «Бальшавізм зрабіў сваю справу, і армія, у значнай ступені атручаная гэтай прапагандай, не толькі не абароніць свабоду, але, застаючыся статкам без пастуха, загубіць яе». Баявы генерал добра разумеў, што « з апошнім стрэлам на фронце ўсё, што цяпер удаецца трымаць у акопах, рынецца ў тыл і прытым са зброяй у руках».

Мінск быў на шляху гэтай арды. «Гэтая шматтысячная сялянская маса ў салдацкіх шынялях, — сведчыў В. Кнорын, — была та самая сіла, што ажыццявіла кастрычніцкі пераварот у Мінску і на Заходнім фронце».

Бальшавікі рыхтавалі ваенны пераварот і накont рэвалюцыйнасці мінскага гегемону ілюзій не мелі. «25 кастрычніка большасць рабочай секцыі Мінскага савета, — сцвярджаў Кнорын, — складалася з бундаўцаў і меншавікоў... рабочая арганізацыя — Мінскае цэнтральнае бюро прафесійяных саюзаў — было пад кіраўніцтвам бундаўцаў І. Перэля, А. Вайнштэйна, Э. Фрумкінай». І яшчэ адно аўтарытэтнае сведчанне: «Моцных сувязяў з рабочымі няма, — заявіў на VI з'ездзе РСДРП (б) усюдыісны Мяснікоў. — З прычыны блізкасці фронту наша арганізацыя па сутнасці ваенная». «...бальшавіцкія кіраўнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі былі чужымі ў нашым краі...» — перабароў страх і прамовіў вядомы рэвалюцыянер С. Агурскі. Восеньскія падзеі 1917 г. нацыянал-камуніст А. Чарвякоў да таго, як «пераканаўся» ў велічы Кастрычніка, назваў «салдацкай» рэвалюцыяй. Потым, праўда, перадумаў, што, аднак, не ўратавала яго жыццё.


Ніна Стужынская.

Такім чынам, мінскія пралетары засталіся ўбаку ад перавароту. У герояў рэволюцыі яны ператварацца значна пазней, калі гісторыкі-прафесіяналы пачнуць падганяць падзеі пад зададзеную схему.

«...банда ўзброеных людзей» (генерал Брусілаў) ці «маса ў шэрых шынялях» (бальшавік Кнорын) забяспечыла захоп улады бальшавікам. Спачатку «творцы Кастрычніка» і не хавалі, што мелі падтрымку толькі на фронце: «25 кастрычніка ён (бальшавізм — аўт.) быў чужым для шырокіх мас», пісаў В. Кнорын ў артыкуле для зборніка «Беларусь» (1924). Праз некалькі гадоў ён жа напіша аб усеагульнай падтрымцы партыі бальшавікоў рабочымі і сялянамі, аб існаванні падрыхтаванага плана ўзброенага выступу і распісаных ролях: хто на телеграф і пошту, а хто ў казармы...

Шмат хто са сведкаў сцвярджаў, што большасць мінчукоў не заўважыла перавароту, газету «Буревестник», дзе была надрукавана навіна з абвяшчэннем савецкай улады, мала хто прачытаў.

Палітычнае жыццё ў Мінску і на фронце было вельмі стракатым вясною 1917-га. На руінах імперыі кожная з партый будавала свае планы прыходу да ўлады. Паралельна і суплётам, кааліцыйна і апазіцыйна суіснавалі ў горадзе шматлікія палітычныя плыні. Кастрычнік — час пасяджэнняў і з'ездаў: франтавых, сялянскіх, партыйных. Армія патрабавала хлеба, вопраткі, адпачынку і яшчэ — Устаноўчага сходу.

Літаральна напярэдадні перавароту скончыў працу з'езд беларусаў-воінаў Заходняга фронту, ён прыняў рэзалюцыю, якую змясціла газета «Фронт», аб «неабходнасці ўтварэння асобнай беларускай арміі і аўтаноміі Беларусі ў межах федэратыўнай рэспублікі».

На з'ездзе быў зацвержаны спіс кандыдатаў, вылучаных Беларускай Грамадою ва Устаноўчы соймі, большасць якога склалі вядомыя беларускія палітыкі — П. Бадунова, С. Рак-Міхайлоўскі,І. Краскоўскі, А. Прушынскі (Алесь Гарун), А. Чарвякоў, Я. Дыла. 22 кастрычніка пачала першую сесію Часовая Цэнтральная Вайсковая Беларуская Рада, у склад якой увайшлі людзі, якія паспрабуюць пазмагацца за ўладу ў паслякастрычніцкай сумнай будучыні: капітан Ярушэвіч, яфрэйтар Шыла, унтэр-афіцэр Мамонька, ст. унтэр-афіцэр Рак-Міхайлоўскі, падпрапаршчык Дварчанін, ваенныя чыноўнікі Захарка і Аляксюк і інш. Другім у спісе пазначаны капітан Адамовіч, прадстаўнік 372-й Мінскай дружыны, якая лічылася абсалютна «чырвонай», апораю бальшавіцкай часткі Мінскага савета. У 1917 г. Вячка Адамовіч стане кіраўніком гуртка беларусазнаўства ў Мінскай семінарыі, а праз два гады прагрыміць як атаман Дзяргач, кіраўнік «Зялёнага Дуба», калі палітычныя сродкі барацьбы будуць вычарпаныя і застанецца толькі баявыя.

24 кастрычніка вырашаў неадкладныя задачы з'езд саветаў сялянскіх дэпутатаў Заходняга фронту. Делегаты выказаліся за ўтварэнне сялянскай большасці ва Устаноўчым сойме, паколькі краіна па сутнасці сваёй сялянская.

На наступны дзень, атрымаўшы ашаламляльныя весткі аб пераваároце, прыняў рэзалюцыю: «З'езд сялянскіх дэпутатаў з горыччу пачуў аб тым, што адна частка дэмакратыі зноў паспрабавала захапіць у свае рукі сілаю ўладу напярэдадні самога склікання Устаноўчага сходу».

Трэба патлумачыць, што першыя чуткі аб маючай адбыцца змене ўлады прайшлі яшчэ 20 кастрычніка, але самі бальшавікі хутка дэзавуявалі іх. Паказальна, што сялянскі зварот — гэта апошні дакумент, дзе бальшавікі згадваюцца як дэмакраты.

Шматлікія палітычныя партыі рашуча асудзілі пераварот.

«Напярэдадні склікання Устаноўчага сходу ...гэта партыя шляхам ваеннай змовы, употайку ад іншых сацыялістычных партый і рэвалюцыйных арганізацый, абапіраючыся на моц штыкоў і кулямётаў, здзейсніла дзяржаўны пераварот» («Рабочая газета»). «Злачынства здзейснілася! Бальшавікі спакусілі, заблыталі цёмную частку салдат і рабочых...» («Дело народа»). «Улада сілаю штыка, кучкі дыктатараў, змоўшчыкаў, абсалютна вар'яцкая жудасная справа» («Борьба»). «Нож у спіну рэвалюцыі!» ЦК Бунда, найбольш уплывовай палітычнай сілы ў Мінску, 7—9 лістапада прыняў рэзалюцыю: «...тэрор бальшавікоў, які абапіраецца на ўзброеную дыктатуру салдат, уяўляе сабою найбольшую бяспеку для рэвалюцыі, адкрывае шлях для ваеннай дыктатуры контррэвалюцыі... нашай задачай з'яўляецца канцэнтрацыя сіл рэвалюцыйнай дэмакратыі вакол ідэі непрызнання гэтай улады і ізаляцыі яе з тым, каб падрыхтаваць яе падзенне».

Не шмат мінула часу, як газета «Вольная Беларусь» з нагоды гадавіны Лютаўскай рэвалюцыі з пачуццём болю адзначыла: «... выявілася, што велікарускі народ устаў перад намі як новы валадар і гвалтаўнік, і ён ...не адмовіцца ад свайго нацыянальнага панавання... Наёмныя банды бальшавізму не спыніліся ні перад чым, каб утрымаць сваё нацыянальнае ўладарства».

А Змітрок Бядуля, які не паспеў яшчэ «саветызавацца», у вялікай скрусе расчаравання напісаў:

О, воля, ты толькі, як промень, зірнула,
О, воля, ты нас абманула…

## СТВ расказала пра Усебеларускі з'езд, але змаўчала, што яго разагналі бальшавікі

Звычайна ў канцы з'езда рабілі супольную фатаграфію, але ў той раз з-за асаблівых абставін фота не адбылося», — сказаў журналіст.

Нагадаем, што Першы Усебеларускі з'езд прайшоў у Мінску 5—17 снежня 1917 года. Ён быў скліканы Вялікай беларускай радай, на яго сабраліся прадстаўнікі ўсіх губерняў, дзе тады пражывала беларускамоўнае насельніцтва. У з'ездзе ўзялі ўдзел 1872 дэлегаты. Старшынёй быў абраны кіраўнік Беларускай вайсковай рады Янка Серада, у будучыні першы старшыня Рады БНР.

З'езд абвясціў правa беларускага народа на незалежнасць і самавызначэнне, а таксама на дэмакратычны ўрад. З'езд абраў раду, у склад якой увайшоў 71 прадстаўнік розных палітычных партыяў.

Бальшавікі разагналі з'езд, але працэс абвяшчэння незалежнасці быў запушчаны. Праз тры месяцы, 25 сакавіка 1918 года, была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).

Пра БНР у матэрыяле СТВ таксама не згадваецца. Аўтары абмяжоўваюцца заўвагай: «У лютым у Менск увайшлі кайзераўскія войскі, у сакавіку адбылася першая спроба гучна заявіць аб суверэнітэце, а ўжо 1 студзеня наступнага каляндарнага года ў Смаленску абвясцілі БССР».

Матэрыял СТВ з'явіўся пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка даслаў вітанні ўдзельнікам навуковай канферэнцыі, прысвечанай 100-годдзю Усебеларускага з'езда: «Падзеі 1917 года спрыялі імкненню беларусаў жыць у сваім доме. Ідэя самавызначэння Беларусі, якая ішла знізу, ад ініцыятывы народных мас, выразілася ў скліканні І Усебеларускага з'езда. Гэты народны сход прадэманстраваў найважнейшыя каштоўнасці, значныя для нас і да цяперашняга дня: сваю дзяржаву, яе сацыяльны характар і той факт, што толькі народ, яго воля, калектыўны розум і лідары могуць стаць сапраўднай крыніцай незалежнасці», — гаварылася ў вітанні.

Сяргей Гезгала


На фота — Вялікая беларуская рада, якая ініцыявала скліканне Усебеларускага з'езду 1917 года

# «Навошта я, калі не змагу па-свойму?» Унікум паэзіі Алесь Разанаў выдаў новую кнігу перад 70-годдзем

Пра кнігу «Невядомая велічыня» піша Анатоль Сідарэвіч.



І чаму Алесь Разанаў не апавядаў мне пра гэта? Мо таму, што я не распытваў? Ці таму, што, ведаючы маю выбуховасць, асцерагаўся мяне «завесці»? І вось, трэба было мне пражыць 36 гадоў, каб даведацца, што пісаў Алег Лойка ў закрытай рэцэнзіі на Алесеў зборнік «Шлях-360» (1981). Трэба было пражыць 36 гадоў, каб даведацца, што машынапіс знакамітага зборніка чытаў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ доктар філасофскіх навук Іван Антановіч.

Зборнік, нагадаю, знакаміты тым, што тэксты паэта «падпёртыя» прадмоваю Пімена Панчанкі і пасляслоўем Варлена Бечыка, рэцэнзіямі (станоўчымі) філосафаў Уладзіміра Конана і Альфрэда Майхровіча ды літаратуразнаўцы Івана Шпакоўскага. А яшчэ ў кніжцы пазначана, што яна, быццам нейкі навуковы зборнік, выйшла пад рэдакцыяй Уладзіміра Караткевіча. Ніводзін паэтычны зборнік у Беларусі не выходзіў з такім суправаджэннем. А пра закрытую рэцэнзію Алега Лойкі і пра тое, што зборнік «Шлях-360» папярэдне чытаў Іван Антановіч, я даведаўся з нядаўна выдадзенай кніжкі «Невядомая велічыня: Гутаркі, артыкулы, згадкі», аўтарам якой з'яўляецца Алесь Разанаў. Зборнік выдаў Ігар Логвінаў — выдавец, якога змусілі перанесці сваё выдавецтва з Менску ў Вільню. Гэта ўжо 14-я кніжка Алеся Разанава, якая ўбачыла свет у афіцыне спадара Логвінава. Сваім зместам яна перагукваецца са зборнікам «З апокрыфа ў канон: Гутаркі, выступленні, нататкі», які выйшаў сем гадоў таму, працягвае і дапаўняе яго.

І калі ўжо гутарка зайшла пра «Шлях-360», дык варт адзначыць, што гэты паэтычны зборнік знакаміты не толькі «падпоркамі» — структураю, архітэктонікай таксама. Аўтар дбаў пра такі жанр, як кніга паэзіі. Кожны раздзел яе пачынаецца з паэмы, за ёй ідуць два-тры вершы, а замыкаюць яго дзве квантэмы.

З квантэмамі ў мяне асабістыя ўспаміны. Здаецца, я пісаў ужо, што яшчэ не апублікаваныя квантэмы Алесь выпрабоўваў на мне. Аднаго разу, недзе ў другой палавіне сямідзясятых мінулага стагоддзя, калі я завітаў да яго на кватэру, што была тады на вуліцы Веры Харужай, Алесь пацягнуў мяне, належным чынам не экіпіраванага і не аматара сонечных ваннаў, на Камсамольскае возера — загараць. Вось там ён мне і чытаў:

надзея навырост
парожні поўдзень
распростваецца
жоўты
дзьмухавец

І гэтую:

я адымаецца
шчыльнеюць рыштаванні
чысты час

Колькі год прайшло, а помніцца!

Квантэмы ўвайшлі ў «Шлях-360». Зусім нядаўна зняўшы з паліцы гэты зборнік, я са здзіўленнем убачыў, што ён не дэдыкаваны. Як так сталася? Пагартаў кніжку і згадаўся: купіўшы яе, я не пайшоў да паэта па дэдыкацыю, а пачаў уважліва чытаць (мо ўважлівей, чым Іван Антановіч). І па-варварску асадкаю (а не алоўкам) рабіў пазнакі. Прачытаў радок «Ступіў, куды — не бачыў» і пазначыў: Ян XII, 35. Прачытаў радок «я той, хто шлях і хто па ім ідзе» і пазначыў: Ян XIV, 6. Прачытаў радок «Што назавецца — гіне» і пазначыў: *Omnis determinatio negatio est* (праўда, я чамусьці замест *omnis* напісаў *omne*). І без пазнак нападкрэсліваў я ў тым Алесевым зборніку вельмі багата. Чытаючы ж квантэмы, у кожнай з іх я лічыў радкі: ці няма сярод іх хоку і танка? Ні хоку, ні танка я не знайшоў, але ўбачыў, што з 18 квантэмаў у сямі 21 склад. На закон жанру не цягнула, але ўсё ж тэндэнцыя праглядалася...

Пра тое, у якім высокім кабінеце чыталі зборнік «Шлях-360» і што пра яго пісаў Алег Лойка, я вычытаў у гутарцы Алеся Разанава з Міхасём Скоблам на «Радыё Свабода». Каюся, на сайце беларускай службы РС я гэты тэкст не чытаў. І раз я ўжо напісаў пра квантэмы, то не магу не згадаць пра яшчэ адзін уведзены Алесем Разанавым жанр — пункціры. Яны сваёй архітэктонікай Тацціяне Дубоўскай, гутарка з якою змешчана ў новай кнізе, таксама нагадвалі хоку і танка. У адной з гутарак Міхась Скобла папытаўся ў Алеся, ці ўплывалі на яго ўсходнія паэты, у прыватнасці майстар хоку Мацуа Басё, якога наш паэт перакладаў. І Алесь адказаў, што ў пункцірах (як і ў квантэмах, дадам я) можна, вядома, знаходзіць «нейкія перагукі» з усходнімі формамі верша, але «гэта перагукі». А не перайманне.

Не помню, ці называў хто (напрыклад, Ева Лявонава, Анатоль Івашчанка, Іван Штэйнер) Алеся Разанава жанратворцам. Калі не, дык гэты тытул надам яму я, бо, апроч квантэмаў і пункціраў, паэт увёў яшчэ версэты, вершаказы і зномы.

І не забывайма, што Алесь — і нямецкамоўны, нямецкі паэт. Пішучы па-нямецку, стаўшы на іншую глебу, ён адчуў, што вершаказам цяжка выказацца, і стаў аўтарам такой жанравай формы, як *wortdichte*, што перакладаюць як вершаслова, а я (маючы на ўвазе дзеяслоў *dichten* — тварыць, складаць, сачыняць) пераклаў бы як словатвор. Беручы пад увагу слова *Dichte* (шчыльнасць, гушчыня, сціснутасць, канцэнтрацыя), *wortdichte* перакладаюць і як сцісласлова. Наш германіст, амбасадар Пётра Садоўскі, знайшоў сярод разанаўскіх вершасловаў сем геніяльных. А яшчэ адзін наш нямецкамоўны паэт, Уладзімір Папковіч, некалькі нямецкамоўных твораў Алеся Разанава пераклаў на беларускую.

Жанратворчасць Алеся Разанава я б назваў адказам на ім жа пастаўленае пытанне ў прысвечанай Францішку Багушэвічу «Паэме каментарыю»: «Навошта я, калі не магу па-свойму?». У выпадку Багушэвіча «па-свойму» — перш-наперш па-беларуску, у выпадку Разанава «па-свойму» — гэта «пераўзысці зацверджаныя межы і ўяўленні» («Паэма запаленых свечак»; я, помніцца, ужо цытаваў гэтыя радкі).

Жанратворца, чуйны да гукаў, дбаючы пра гукаспалучэнне і мілагучнасць верша, уважлівы да яго архітэктонікі, Алесь Разанаў апошнім часам (2015 і 2017) апублікаваў два не зусім звычайныя ў нашай літаратуры творы. Жанр не новы — разбор, аналіз аднаго верша. З такіх публікацыяў я памятаю эсэ Варлена Бечыка пра верш Максіма Танка «Ластаўкі». Гэта, як помніцца, быў тэкст на адну старонку «Літаратуры і мастацтва», а мо трохі больш. У Алеся Разанава гэта разгорнутыя тэксты. Другі з гэтых тэкстаў — пра Міхася Стральцова.

Пра Міхася Стральцова Алесь пісаў яшчэ ў 1994-м (гэты тэкст друкуецца ў новым зборніку). Сёлета ж ён узяў для аналізу «глыбока біяграфічны, «нутраны» стральцоўскі верш «Пад шоргат кропель дажджавых...» з класічнага зборніка вершаў «Мой свеце ясны». Разанаўскі аналіз верша прызначаны тым, хто жыве паэзіяй і ў паэзіі, а таксама літаратуразнаўцам, якія жывуць з паэзіі, і, вядома ж, вялікім аматарам паэзіі. Гэты тэкст сваёй шчыльнасцю, дэталёвасцю нагадвае мне працу маладога Антона Адамовіча «Максім Гарэцкі (Спроба манаграфіі аб творчасці)».

Такімі ж якасцямі валодае і тэкст Алеся Разанава пра верш Алеся Пісьмянкова «Мой сад у снезе па калена...». Помніцца, калі я першы раз чытаў гэты твор незабыўнага Алеся Пісьмянкова, у мяне адразу нарадзілася думка: які музычны верш! І другая думка: гэта павінна быць музыка для танца. На жаль, я абсалютны прафан у музыцы, але мне чамусьці падумалася, што гэты верш кладзецца ў канон танга. Мне нават уявілася, як яго спявае Аляксандр Вярцінскі. І Алесь Разанаў піша, што гэты «просты і нават празрысты» верш сваёй рытмікай, сваёй інтанацыяй «блізкі песнапеву». Зноў жа, разанаўскі аналіз верша Алеся Пісьмянкова прызначаны знаўцам і вялікім аматарам паэзіі, тэарэтызавання. Як і тэкст пра верш Міхася Стральцова, гэта нялёгкае чытанне.

Пісаў Алесь Разанаў і пра Анатоля Вярцінскага ды Уладзіміра Конана, сваім словам падтрымліваў паэтак з Падляшша Надзею Артымовіч і Зою Сачко. Гэта ўжо тэксты іншага складу, эсэістычныя. Яны таксама змешчаныя ў новым зборніку.

У новым зборніку больш поўна «прасвечваецца» асоба Алеся Разанава, пэўныя моманты яго жыццёвага шляху.

І зноў не магу не пусціцца ва ўспаміны. Алесь і некаторыя іншыя нашы равеснікі трапілі пад уплыў Пражскай вясны з яе ідэямі абнаўлення грамадства, плюралізму, цярпімасці.

У новай кнізе паэт гэта прызнае. І ў пэўнай ступені тлумачыць падзеі 1968 г. на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта гэтым уплывам. Калі я пасля ўварвання войскаў краін Варшаўскай дамовы ў Чэхаславаччыну апынуўся ў старым манастырскім будынку з закратаванымі вокнамі і з дзвярыма, якія можна было адчыняць толькі адмычкамі і толькі людзям у белых халатах, Алесь быў адзін з тых, хто наведаў мяне ў гэтай установе аховы здароўя. Тое было, як помніцца, у снежні 1968-га. У БДУ ужо кіпелі жарсці, рэктар, акадэмік Антон Сеўчанка, ужо аддаваў распараджэнні, але мой візаві ані слова не сказаў ні пра збор подпісаў за выкладанне на беларускай мове, ні пра тое, што яго ўзялі ў пераплёт.

З новай кніжкі Алеся Разанава можна даведацца, што пісаў Максім Танк яго не на жарт устрывожанай маці.

Якую ролю ў жыцці паэта адыграў Уладзімір Калеснік (а мне ён быў апанент, асабліва калі гэта тычыла асобы Антона Луцкевіча). Як яму, хто найлепш вытрымаў уступныя іспыты, не далі месца ў дзённай аспірантуры Інстытута літаратуры АН БССР. Якая суправадзілаўка прыйшла на яго ў войска. Як пасля звальнення з працы ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» ў ЦК КПБ хадзіў за яго заступацца Іван Мележ. Як яму паспрыяў сакратар Цэнтральнага Камітэта Аляксандр Кузьмін («хітраван стары Кузьмін» паспрыяў не аднаму Алесю Разанаву). Як яго, апальнага, вымушанага працаваць у рэдакцыі часопіса «Родная прырода», запрасіла на працу ў выдавецтва «Мастацкая літаратура» Вера Палтаран. І гэта стала, калі на тое пайшло, рэабілітацыяй паэта.

Праўда, наперадзе Алеся Разанава чакала яшчэ не адна перашкода. І ў БССР, і ў лукашэнкаўскай РБ. З новай кніжкі можна штоколечы даведацца пра яго жыццёбыццё ў Гановеры і Боне, Грацы і Цугу. Мусіць, так яно і павінна быць — мусіць, на шляху творцы павінны паўставаць перашкоды, з'яўляцца апаненты і нават ворагі.

Калі творца мае цвёрдыя перакананні, мае цвёрды характар і творчы патэнцыял, ён адольвае тыя перашкоды, а ягоныя апаненты і ворагі сыходзяць з ягонага шляху, застаюцца на абочыне. Як пісаў Уладзімір Дубоўка, «варожасць шляху не зачыніць: у перашкодах дух расце».

***

5 снежня Алесю Разанаву споўнілася 70 гадоў.

Фота Сяргея Гудзіліна

## Святлана Куль.
## Бачыш, мама, наш горад плыве пад табою

Бачыш, мама, наш горад плыве пад табою, нібы карабель,
Павярхоўкі, бы мачты ў ветразях белых аблокаў,
З гатай горкі глядзець на яго вельмі зручна табе,
Вунь за тымі дамамі і наш недзе там недалёка.
Сонца ў Нёман сядае і ноччу не грэе зямлю,
Твой даплыў карабель, на крыжы пераробленыя рэі.
Не, не плачу. Я проста. Агеньчык табе запалю.
Хай гарыць. Хай зямлю. Хай цябе гэтай ноччу сагрэе.

**Студзень**
**1** — Новы год
— 25 гадоў таму Чэхаславакія падзялілася на дзве дзяржавы — Чэхію і Славакію
**2** — 225 гадоў таму адбыўся Другі падзел Рэчы Паспалітай
**4** — 375 гадоў таму нарадзіўся англійскі фізік Ісак Ньютан
**6** — Тры каралі ў каталікоў, Вадохрышча ва ўніятаў
**7** — Раство ў праваслаўных
**13** — 125 гадоў таму нарадзіўся Хаім Суцін, французскі мастак беларускага паходжання
— 425 гадоў таму памёр асветнік Сымон Будны
**14** — 125 гадоў таму нарадзілася паэтка Канстанцыя Буйла
**19** — Вадохрышча ў праваслаўных
— 75 гадоў таму нарадзілася спявачка Джэніс Джоплін
— 150 гадоў таму нарадзіўся аўстрыйскі пісьменнік Густаў Майрынк, аўтар «Голема»
**21** — 200 гадоў таму нарадзіўся этнограф і краязнаўца Адам Кіркор
**28** — 75 гадоў таму нарадзіўся рэжысёр Міхаіл Пташук
— 50 гадоў паэтцы Ларысе Рамановай
**29** — 150 гадоў таму нарадзіўся паэт і драматург Карусь Каганец

**Люты**
**2** — Грамніцы ў каталікоў і ўніятаў
**9** — 125 гадоў таму гледачам упершыню быў прадэманстраваны стрыптыз у «Мулен Руж»
**10** — 75 гадоў таму нарадзіўся літаратуразнаўца Міхась Тычына
**11** — 50 гадоў таму нарадзіўся тэлевядучы Юрый Жыгамонт
**13** — 100 гадоў таму нарадзіўся кіраўнік БССР Пятро Машэраў
**14** — Дзень святога Валянціна
— Папялец у каталікоў
**15** — Грамніцы ў праваслаўных
**17** — 50 гадоў таму нарадзіўся гісторык Алесь Белы
**18** — 125 гадоў таму нарадзіўся пісьменнік Максім Гарэцкі
**21** — Міжнародны дзень роднай мовы
**28** — 250 гадоў таму створаная Барская канфедэрацыя

**Сакавік**
**1** — Пурым у юдэяў
**2** — 100 гадоў таму нарадзіўся паэт Алесь Бачыла, аўтар верша «Радзіма мая дарагая»
**8** — Жаночы дзень
**15** — Дзень Канстытуцыі
**16** — 150 гадоў таму нарадзіўся расейскі пісьменнік Максім Горкі
**25** — 100 гадоў таму абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, Дзень Волі
— Вербніца ў каталікоў і ўніятаў
**31** сакавіка — **7** красавіка — Пэсах у юдэяў

**Красавік**
**1** — Вялікдзень у каталікоў і ўніятаў
— Вербніца ў праваслаўных
**4** — 50 гадоў таму забіты амерыканскі змагар за правы чарнаскурых Марцін Лютар Кінг
**8** — Вялікдзень у праваслаўных
**16** — 50 гадоў таму нарадзіўся палітык Георгій Дзмітрук
**17** — Радаўніца ў праваслаўных
**18** — 500 гадоў таму Бона Сфорца каранаваная як каралева Польшчы і вялікая княгіня Літоўская
**25** — 150 гадоў таму нарадзіўся старшыня Народнага Сакратарыята (Урада) БНР Раман Скірмунт
**26** — Дзень Чарнобыльскай трагедыі

**Май**
**1** — Дзень працы
**5** — 200 гадоў таму нарадзіўся тэарэтык камунізму Карл Маркс
**9** — Дзень Перамогі
**10** — Ушэсце ў каталікоў і ўніятаў
**17** — Ушэсце ў праваслаўных
— Пачатак Рамадана ў мусульман
**20** — Зялёныя святы ў каталікоў, Сёмуха ва ўніятаў
**27** — Тройца ў праваслаўных
**31** — Свята Божага Цела ў каталікоў




**Студзень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| В | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| В | 7 | 14 | 21 | 28 | |

**Люты**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| В | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| В | 4 | 11 | 18 | 25 | |

**Сакавік**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| В | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| В | 4 | 11 | 18 | 25 | |

**Красавік**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

**Май**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

**Чэрвень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

**Ліпень**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

**Жнівень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

**Верасень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

**Кастрычнік**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

**Лістапад**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

**Снежань**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

**Чэрвень**
**24** — 50 гадоў таму нарадзіўся беларуска-ізраільскі шахматыст Барыс Гельфанд
**29** — Пятра і Паўла ў каталікоў

**Ліпень**
**2** — Дзень Божай Маці Будслаўскай, апякункі Беларусі
**3** — Дзень Рэспублікі
**6** — Купалле
**7** — 125 гадоў таму нарадзіўся расейскі паэт Уладзімір Маякоўскі
**9** — 100 гадоў таму бел-чырвона-белы сцяг зацверджаны як дзяржаўны сімвал БНР
**12** — Пятра і Паўла ў праваслаўных
**14** — 100 гадоў таму нарадзіўся шведскі рэжысёр Інгмар Бергман
**18** — 100 гадоў таму нарадзіўся Нэльсан Мандэла, змагар за свабоду
**26** — 75 гадоў таму нарадзіўся музыка Мік Джагер
**27** — Дзень абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце ў 1990-м

**Жнівень**
**6** — Зельна ў каталікоў, Яблычны Спас ва ўніятаў
**15** — Спленне ў каталікоў і ўніятаў
**19** — Яблычны Спас у праваслаўных
**22** — Курбан-Байрам у мусульман
**28** — Спленне ў праваслаўных

**Верасень**
**1** — Сусветны дзень ведаў
— 125 гадоў таму нарадзіўся пісьменнік Андрэй Мрый, аўтар «Запісак Самсона Самасуя»
**8** — Дзень беларускай вайсковай славы
**10** — Роша Га-Шана (Новы год) у юдэяў
— 50 гадоў таму нарадзіўся брытанскі рэжысёр Гай Рычы
**11** — Рас-ас-Сана (Новы год) у мусульман
— 50 гадоў таму нарадзіўся гісторык і палітык Ігар Марзалюк
**12** — 125 гадоў таму нарадзілася Паўліна Мядзёлка, актрыса і педагог
**14** — Узвіжанне ў каталікоў і ўніятаў
**20** — 75 гадоў таму нарадзілася паэтка Ніна Мацяш
**21** — 100 гадоў таму нарадзіўся Фёдар Янкоўскі, мовазнаўца і фалькларыст
**27** — Узвіжанне ў праваслаўных
**29** — 75 гадоў таму нарадзіўся лідар польскай «Салідарнасці» Лех Валенса

**Кастрычнік**
**1** — Пакроў ва ўніятаў
**14** — Пакроў у праваслаўных
**23** — 50 гадоў таму нарадзілася спявачка Іна Афанасьева
**31** — Хэлоўін

**Лістапад**
**1** — Дзень усіх святых у каталікоў
**2** — Дзяды
**5** — 125 гадоў таму нарадзіўся палітычны і вайсковы дзеяч Канстанцін Езавітаў
**9** — 200 гадоў таму нарадзіўся рускі пісьменнік Іван Тургенеў
**14** — 50 гадоў пісьменніку Змітру Бартосіку
**15** — Пачатак Піліпаўкі ва ўніятаў
**16** — Дзень Маці Божай Вастрабрамскай
**26** — 75 гадоў таму ад нацыстаў вызвалены Гомель
**28** — Пачатак Піліпаўкі ў праваслаўных

**Снежань**
**2** — Пачатак Адвэнту ў каталікоў
**7** — 75 гадоў таму забіты Вацлаў Іваноўскі
**10** — Дзень правоў чалавека
**11** — 100 гадоў таму нарадзіўся расейскі пісьменнік Аляксандр Салжаніцын
**14** — 125 гадоў таму нарадзіўся Яўген Цікоцкі, кампазітар
**25** — Божае Нараджэнне ў каталікоў, уніятаў, пратэстантаў



Арцём і Ксенія з Naviband чакаюць дзіця. Прыбаўленне ў зорнай пары, што скарала сёлета «Еўрабачанне» і запомнілася прыгожым пацалункам пасля выступу на сцэне, чакаецца бліжэй да лета.




У Мінску ўручылі першую Нацыянальную прэмію беларускай моды. На фота: прыз за найлепшую дзіцячую калекцыю атрымалі Navy Kids. «Адкрыццём года» прызнаная дызайнерка Lsd. «Новым талентам» — Leushina. У намінацыі Fashion roots (тыя, хто працуе з нацыянальнай тэматыкай) прыз атрымала Tanya Tur. Найлепшым дызайнерам жаночага адзення прызнаная Юлія Гілевіч. Найлепшым дызайнерам мужчынскага адзення — Людміла Тараканава.

Колішні прадстаўнік Беларусі на «Еўрабачанні» Дзмітрый Калдун даў сольны канцэрт на сцэне маскоўскага гей-клуба Paradise SPA. Падзея адбылася ў суботу 2 снежня. Калдун выступіў з уласнымі песнямі. Аўдыторыю склалі, як вынікае з відэа, людзі ў халатах для саўны. Потым ён цёпла пагаварыў з фанатамі.
Адметна, што гэтага канцэрта ў афіцыйным раскладзе гастроляў на сайце Калдуна няма, хаця напярэдадні Калдун сапраўды выступаў у Маскве.



Новая прэс-сакратарка міністра абароны Расіі Сяргея Шайгу ўзарвала інтэрнэт. Ёй стала 26-гадовая Расіяна Маркоўская.

Такога салодкага грузу «Наша Ніва» яшчэ ніколі не атрымлівала. Мінскі праграміст Раман Х. перадаў Рэдакцыі 10 кг цукерак. Кожны такі падарунак абавязвае нас працаваць лепш.

**Не забудзьцеся падпісацца на 2018 год, першы нумар выйдзе 10 студзеня.**

## Анекдоты і жарты

Супраць дырэктара «Аўта-ВАЗа» хацелі завесці крымінальную справу. Але яна не завялася!

* * *

— А нашто ж вам страус на дачы, Манечка?
— А мой стары яго палохае кожныя 30 см, а я ў тыя ямкі бульбу саджу.

* * *

У нашым жыцці галоўнае — каб незнаёмыя людзі ў інтэрнэце былі табой задаволеныя.

* * *

— Тата, я закахалася! Мы пазнаёміліся на *kahanne.by*, потым мы зафрэндзіліся на «Фэйсбуку», балбаталі праз *WhatsApp*, а цяпер ён прызнаўся мне ў каханні праз «Вайбер»!
— Ну тады, дачушка, ажэніцеся з ім на «Твітары», дзяцей купіце на *eBay*, а калі ён табе надакучыць — выставіш яго на «Куфары».

* * *

— Чаму ты ўвесь час хлусіш?
— Я не хлушу. Я эканомлю праўду.

* * *

Спачатку было слова — і, гледзячы па тым, што адбываецца навокал, не вельмі цэнзурнае.

* * *

Зборную Расіі па допінгу злавілі на занятках спортам.

* * *

Што бачыць звышаптыміст на могілках? — Адныя плюсы!

## «НН» 111 гадоў з вамі

**Цёмны беларусе!** Дурманяць цябе праклятай гарэлкай ды апошнюю кроў высысаюць з цябе! Але і сам ты вінаваты: няхай бы так скора з'явілася ў нас бібліятэка, чытальня ці школа, як той тракцір, — дык гэтага няма! У Фінляндыі народ разумнейшы: сейм (дума) забараніў прадаваць гарэлку, хіба толькі для хворага дастанеш у аптэцы.

**НН. №34. 1907**

**Дэлегацыя дэмакратычных сілаў Беларусі**, у склад якой уваходзяць Эніра Браніцкая, Сяргей Калякін, Анатоль Лябедзька, Анатоль Ляўковіч, Аляксандр Мілінкевіч, Павал Севярынец і Зміцер Хведарук, у гэтыя дні наведвае ЗША. Найбольш адметнай падзеяй візіту стала гутарка з дзяржсакратаром Кандалізай Райс.

Падчас сустрэчы дзяржсакратар ЗША заявіла, што Вашынгтон падтрымлівае дэмакратычны рух у Беларусі.

А.Лябедзька падараваў дзяржсакратарцы бел-чырвона-белы напульснік з надпісам «За свабоду!». Яна яго адразу ж надзела на руку.

**НН. 5 снежня. 2007**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

в. а. галоўнага рэдактара — Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 5001. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 5.12.2017.
Замова №4566.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 17012